Яўген ХВАЛЕЙ

---

# КВАДРЫ ПАМЯЦІ

ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1992

ББК 84Бел7
Х 30

Новый сборник поэта составляют четыре раздела: «Маладзік», «Поўня», «Сход», «Ветах», названия которых имеют символический смысл. Автор стремится постичь и далекое, и совсем недавнее прошлое, разобраться в сложных противоречиях сегодняшнего дня, заглянуть в будущее. Отсюда и разнообразие поэтических форм — от твердых и почти забытых терцин, до современного верлибра, раскованного стиха.

Х $\frac{4702120202-046}{М\ 302(03)-92}$ 64—92

ISBN 5-340-01109-7

* * *

*Маладзік... Яшчэ не ветах...*
*Поўня выплыве над светам.*

*Квадры Месяца — як тайна,*
*як спатканні і расстанні...*

*Я жыву ў адвечных квадрах,*
*падуладны толькі ім.*

*Ходзіш, Месяцава варта,*
*па-над лёсам ты маім.*

*Маладзік... Яшчэ не ветах...*
*Лёс, мяне не абдзялі...*
*Дай адчуць мне болі веку,*
*дай спазнаць мне праўду веку*
*на маёй святой зямлі.*

# ХЛЕБ

ТРЫПЦІХ

## *1. Неаптымістычная антыода (50 гг.)*

У Мінск па хлеб
за сотню вёрст,
з начлегам каля крамы,
цябе цягнік сюды прывёз,
мая вяскоўка мама.

Мукі́ не стала ўжо даўно,
дзяжа рассохлася за лета,
і апусцелае гумно
стаіць, бы ў роспачы кабета.

Дзяцей — чацвёра птушанят,
і ты сама — як ка́ня, мама...
Як накарміць,
калі зярнят
і бульбы —
ані грама?..

Калгасны голы працадзень —
адны мядзяныя капейкі...
Ты ў горадзе, нібыта цень,
стаіш у чэргах-змейках...

Вязеш дадому,
як дары,
ты боханы-блізняты,
а мы, малеча, у двары
страчаем іх, як свята.

### *2. Кукурузна-утапічная антыідылія (60 гг.)*

Вучуся ў школе без прымусу,
здаецца, я ад кніг —
аслеп...
А дома ем хлеб з кукурузы,
з гароху...
дзе ты, чорны хлеб?

Грызу задачы, тэарэмы,
законы фізікі спасціг...
Адной я не асілю тэмы:
дзе чорны хлеб,
куды ён знік?

Вядомай прымаўцы не веру:
«Ёсць хлеб — траякі...»
Кажу адно:
«Ёсць... шэры, шэры...
і хлеб ніякі...»

Аддаў бы ўсе на свеце булкі
за скібку чорную адну...

І дзякуй богу, што хоць бульба
на ўроку не дае заснуць.

Пішу пра поле сачыненне —
гудуць чмялі,
звініць раса...
Здаюцца літары мне зернем
у спелых буйных каласах...

### *3. Застольна-застойная антыпесня (70 гг.)*

Пакідаю сяброў, інтэрнат,
прыязджаю дадому між сесій.
Бацька мой па хваробе на пенсіі,
ён на лаўцы сядзіць ля прысад...

— Вочы бачаць,
а рукі не робяць...
Ем, як кажуць, дармовы хлеб.
Ёсць цяпер ён,
ёсць, як і грошы...
Жытка, можа, не трэба і лепш...

Толькі хлеб вось зусім абясцэнілі...
Эх, забылі наш час і наш пот!
Каля крамы штодзённыя «сцэны»:
Хлеба бохан, «чарніла» —
й пад плот...

І сядзяць «рабацягі»,
«шчыруюць»,
перад хлебам не маюць віны...
А кабеты ля крамы віруюць:
хлеб мяхамі нясуць —
хлеб свіны...

Пакідаю сяброў, інтэрнат,
прыязджаю дадому між сесій.
Бацька мой па хваробе на пенсіі,
ён на лаўцы сядзіць ля прысад.

# НОВЫ СВЕРЖАН

Мястэчку Новы Свержан — у трылогіі Я. Коласа «На ростанях» Панямонь — споўнілася 500 гадоў.

Равеснік Адраджэння і Скарыны,
маё мястэчка па дарозе на Нясвіж...
Дзе твой загадкавы «вой-крыж»,
якія ворагі скарылі?

Царква Успенская —
з адвечнай тайнай,
і Петрапаўлаўскі касцёл замёр
пад позіркам зыбучых зор...
Вякоў сустрэчы
і расстанні...

Тут шведаў і французаў «калыхала» зямля,
нібы шматбальны землятрус.
Поўз прусаком сюды фашысцкі гнюс,
гадзюкаю «карычневай» паўзла навала...

Ты выжыла ў «эпоху» Радзівілаў —
о колькі табе снілася князёў!
Наднёманскі суглінак,
чарназём
не раз сляза твая крапіла...

З зямлі тваёй прабіўся Колас,
рос дух яго да неба тут...
Сыны твае ірвалі петлі пут,
каб словы песняра
«Мой родны кут!»
Клімук аднойчы ўзняў у космас.

# ПАД ЦЕНЕМ КРЫЛА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ БЯДЫ

*Лістапад 1986 г.*

Сястра мая,
сагрэй бацькоўскі дом
сваім дыханнем і душы цяплом...
*Мікола Мятліцкі*

## *1. Рэквіем пакінутай хаты*

Словы — па-за рысай...
Гаворым
рухамі,
жэстамі,
мімікай,
яшчэ — маўчаннем душы.
Як хата...
Дзверы,
якія страчалі калісьці нас
рыпам-абдымкам,
застылі наросцеж,
нібы чалавек,
які анямеў ад страху...
Парог,
абшарпаны галёшамі,
ботамі, чунямі,
на які мы смела ступалі,
сцярожка пераступаем —
не зачапіць бы сучок,
хаты аголены нерв...

Печ,
на чарэні якой мы ляжалі,
быццам Ямеля казачны,
ехалі ў сне,
дзе пачулі
пра забойства Індзіры Гандзі,—
халодная, нібы лёд...

Вокны,
праз якія
мы зоркі шчасця выглядвалі,
глядзяць у вечнасць
і моляць:
не стаць бы жалобным позіркам
усёй планеты...

*2. Горкая памяць*

Дронькі... Кажушкі...
І Бабчын...
Хто з вас лёс ценю
прадбачыў?
Мёртвая цішыня...
Хоць бы пачуць пяюна...

Пуста.
Як неба пустыня...

Людзі!
Сэрца застыне...

Час які?
Век які?
Атамны!
Дом не сагрэе
сястра твая,
яблыняў цвет не пакратае...
Ave, Наталля!
Запомнім
сцежку да весніц, калодзежа,
вуліцу, месяц-малодзіва...

Памяць —
прашчураў памяць —
промнямі руні абпаліць...
Цень-уздых сонца
сплыве
па роснай
трагічнай
траве...

# ПЕРАДАПОШНЯЕ ПІСЬМО

*13 жніўня 1956 года*

«...праз трыццаць гадоў пісьменніцкі пленум разглядаў пытанне: пісьмо, з якім Якуб Колас хадзіў у ЦК партыі ў дзень сваёй смерці... Пісьмо — пра становішча з роднай мовай...»

*Янка Брыль*

*На стале песняра засталося недапісаным апошняе пісьмо маскоўскаму перакладчыку Яўгену Мазалькову.*

Калышацца пад лёгкім ветрам жыта,
вартуюць сосны знакаміты дом.
Апошні дзень...
Яшчэ ён не пражыты...
Схіляецца чало над аркушам, сталом.

«Што напісаць? Ці праўдай гэта будзе?
Ці зразумееш, браце Мазалькоў...»
Не промні жніўня —
злая сцюжа студзеня
залезла ў жылы і халодзіць кроў.

...На сосны глянуў, зачыніўшы брамку,
акінуў навуковы гарадок.
Кірунак ясны... Як і неба зранку...
Жыве надзея...
Рызыкоўны крок...

Хоць у паветры не было задушша —
спаў тры гады злавесны той мікроб,
што вытраўляў, гнаіў людскія душы,
ссылаў туды, дзе гаспадарыў крот...

Ішоў, люляў, шаптаў, нібы замову,
радкі свайго балючага ліста.
У ім слязой нявыплаканай — мова,
якой служыў,
якую страціць страх...

Яе адну хацеў аддаць нашчадкам,
як лёс Айчыны,
свой палынны лёс...
...Радкі ліста —
загадку часу —
душа таемна несла да нябёс...

* * *

*Герою Савецкага Саюза*
*Мікалаю Чэпіку,*
*воінам, якія загінулі*
*ў Афганістане.*

На зямлі маёй ружы цвітуць і цюльпаны,
як і там,
каля гор Гіндукуша...
Мы жыццё аддалі у гарах вельмі рана,
там, у скалах, гараць нашы душы...

Самалёт... Самалёт...
Ты ні ў чым не павінен —
хто празваў цябе «чорным цюльпанам»?
Ты нясеш сябрука —
падарваўся на міне —
і мяне,
што не здаўся душманам...

За аблокамі мы,
мы цяпер — толькі цені:
праплывём над зямлёю,
над вамі,
суайчыннікі нашы,
няўжо вы хацелі,
каб над вамі мы так праплывалі?..

Будзе хутка пасадка на аэрадроме,
стрэнуць слёзы нас,
а не цюльпаны.

І баюся, баюся я роднага дому,
маці немага крыку,
сёстраў,
сяльчанаў...

Недзе Зорка гарыць Залатая,
як свечка,
толькі мне пра яе ўжо не ведаць...
Хай бы лепей на небе
свяцілася вечна,
закаханым пад ёй было б светла...

2—1262

## ПРА БЯРОЗКІ...

Панесліся пагалоскі:
— Закрываюць «Бярозкі»...
І вось ужо дама ў манто
з «шырокай» душой
і аўто
крык узняла і лямант,
нібыта знікае мамант,
нібыта свету канец...
І чэргі, чэргі...
Шустрэц
гатоў заплаціць,
як магнат,
за мару мяшчанскую —
сертыфікат...

А недзе ціхутка ля вёскі
стаяць, як удовы,
бярозкі,
як сведкі...
Ад іх ты ўведаеш, госць,
пра
пасляваенную маладосць
сяльчан,
што цярпелі здзекі,
здаровыя і калекі...
І помняць яны «кукурузны»,
а потым — «чарнільны» час,
калі ўжо елі «ад пуза»,

пілі не бярозавы квас...
І пляскалі, пляскалі ў ладкі,
пяклі небыліцаў аладкі...

...Прад вамі і толькі прад вамі
сагну я калені,
бярозкі
ля вёскі...

* * *

Прапіваюць матчыны пенсіі гора-сыны,
падкідаюць дзяцей п'яніцы-маці...
Скуль жа з'явілася здань сатаны,
з пекла ці з раю —
каго вінаваціць?

Як жа ты карты паблытала ўсе,
«чорта» сабе ўзяла,
                    д'яблава сіла?!
Крык абрываецца на паўвярсце...
Голас мой рэха далей падхапіла.

Рэха, якое не знае маны,
чуй жа і ты яго,
                    здань сатаны!

# СУСЕД

Сабакі тут,
аўчаркі не хапала...
Ёсць дача-шык, машына «Жыгулі»,
дабра кватэра — кніжак вельмі мала:
палоняць мэбля, дываны і крышталі,
набытыя ў застойныя гады.
Ён, быццам Богу, моліцца багаццю.
Адзін сынок,
адзін як перст, у хаце —
няўжо і ён апусціцца туды,
дзе ўжо не людзі — здані,
цені за век нажытага дабра?
Не матылёк, не летуценніца,
душа — страшней душы раба.
Давер суседу па пляцоўцы меншы —
дзвярам ён больш, дзе аж тры замкі.
Пакуль жыццё яго не пакамечыць,
не прывітаецца
і не падасць рукі.
Адной аўчаркі
тут і не хапала...
Ды вось, гляджу,
на павадку вядзе,
каб, нібы Цэрбер,
пільна вартавала
яго ўчарашні,
гэткі мілы, дзень...

# ЖОРСТКАЯ МУЗЫКА

## ВЯНОК САНЕТАЎ

Зноў пакаленне зменіць пакаленне,
Але пакуль людскі не звёўся род —
Пры ўсіх аркестрах голасам сумлення
Спявак павінен думаць пра народ.

*Яўгенія Янішчыц*

*1*

Казаў: пачуеш музыку ў душы,—
Вясковы лірнік, ты ў мяне за Бога,—
Няма ў цябе імгнення больш святога:
І дух, і цела, нібы спарышы,

Імкнуцца ў бездань высі... Два стрыжы
Жыцця твайго адзінага зямнога,
Якога не было нідзе замнога:
Ні ў буры дзён, ні ў ранкавай цішы.

Твой вобраз, быццам знічка, прападае,
Вяртаецца загадкаваю зданню...
Куды нас лёс вандроўны занясе?

Каму паклонімся ў журбе расстайна?
Не той скразной мелодыі ў расе,
Што з-пад нябёс крутых зыходзіць тайна?

*2*

Што з-пад нябёс крутых зыходзіць тайна —
Таму адвеку жыць і на зямлі.
Цябе пад скрыпку сцюжы нараклі
Аднойчы ноч калядная, світанне.

Узносіліся гукі, як вітанне,
І ты — нібы анёл святы, калі
Яшчэ твой горды прадзедаўскі кліч,
Як маладзік, наперадзе, змаганне.

Міг нараджэння! Музыка бацькоў,
Сяброў, знаёмых, блізкіх, сваякоў.
Адведзіны... Ну, як без гожых слоў?

Як не ўгадаць, кім першынец твой стане?
Гудзе бяседа шчыра за сталом.
Жыццё ў палоне роздуму, пытанняў...

*3*

Жыццё ў палоне роздуму, пытанняў...
Далёка ад маленства я адбег...
Гады расцягнуты, нібыта мех
Двухрадкі на каленях хутараніна.

Ах, гульбы, скокі з вечара да рання —
Дзявочы і хлапечы звонкі смех!

«Каробушку» іграе дзядзька Лех,
Я ў бубен бухаю старанна.

Малы, і ў шосты клас хадзіў тады,
А ён крывавых рэк прайшоў брады.
Гармонік латаны, нібы апратка.

Калі ў кутку асушваў барышы,
Казаў: «Паслу-хай маю праў-ду, братка...
Кі-дай усё, садзі-ся і пішы...»

*4*

«Кідай усё, садзіся і пішы...» —
Ці мне, падлётку-птаху, было лёгка,
Надрыў пачуўшы, споведзь дзядзькі Лёхі?
Мо лепей бы з лазы плясці кашы?

«Сібір... Зіма... Жыццё на скавышы...
Пасля, бы крот, сядзеў у мёрзлых лёхах.
(Той час ліхі не так ужо далёка...)
За што? Чаму? Да трох ты не кажы!

Я, пэўна б, косці ўласныя паклаў,
Каб не гармонік-сябар, не іграў...
Ён мой заступнік родны быў, пацеха —

А то з жыццём бы, можа, парашыў!..
Пішы... Часіна гэта, хлопча, «веха».
Ты толькі супраць Музы не грашы».

5

«Ты толькі супраць Музы не грашы...»—
Сказаў — і зноў на коленкі гармонік.
І «Полька» з «Яблычкам» пяюць-гамоняць...
Сляза ў музыкавых вачах імжыць.

«За што?» — як звон на ростані-мяжы...
«За што?» — этапамі людзей пагоніць
«Хват-следчы» пешшу і ў вагонах.
Арган заплача ад нямой імшы...

«За што?» — ідзе-брыдзе, нібы па пятах...
Адзін... Два... Тры... Мільёны паўраспятых...
Якой зямной аплочана цаной?!

Імёны дарагія святататна
Чыёй запэцканы гразёй-маной
За нейкі ржавы медны грошык танны?

6

За нейкі ржавы медны грошык танны —
Было — сусед суседа прадаваў:
Не на шарманцы даўняй ён іграў,
А на жыцці, на мігу тым астатнім...

Дзяцюк мажны, як дуб надрэчны, статны
Павязку паліцая ўраз напяў...

А мо на здраду блізкім права даў
Яму звыродны 37-мы страшны?

Бо жорсткую навуку меў той год:
Пужай чужых — таму бі свой свайго!
З гармонічкам нямецкім у губах,

З нянавісцю тупой арангутана
Дзяцюк наводзіў на суседзяў страх —
«Тварыў», як Бог, «бунтоўна», «апантана»...

## 7

Твары, як Бог, бунтоўна, апантана...
О гэты ратавальны наш дэвіз!
Душа, к душы ідзі — спяшай без віз!
Ты зразумееш — позна альбо рана,—

Чаму тваё няшчаснае каханне
Жыве, дзе мілы кут зямной любві?
Адчай душу павоем апавіў.
Ты ўвесь напяты, чуйны, як мембрана.

Ты — быццам сіратлівая струна,
На ёй іграе чорт ці сатана...
Я добра помню джаз-аркестр вясковы —

Выходзіць спешна замуж Зоя Шых,
З якой хацеў, жадаў я быць да скону
Не ў хаце — ў вечным райскім шалашы...

*8*

Не ў хаце — ў вечным райскім шалашы
Я ёй прызнаўся, помню, ясным летам:
Цвілі лугі альпійскім разнакветам,
Іграла сонца ў ззоранай вышы.

Нібы ад срэбных росных парушын,
Зажмурыліся — паплылі над светам.
Ды гэты міг быў — проста песняй спетай.
Ах, Зоя, Зоя!.. Што ж ты, Зоя Шых!..

Як мог зманіць, скажы, якімі чарамі
Цябе сельпоўскі спешчаны начальнік,
Што на паўлітра падка пазіраў,

Як воўк сівы ў Пяліпаўку на поўню?!
Калі куляў, ён тут жа паўтараў:
«Хай дух няўтольны свет стары напоўніць...»

*9*

Хай дух няўтольны свет стары напоўніць...
Ах, дзе вы, скрыпкі, бубны і басы?!
Нібыта рэха, чую галасы
Музыкаў родных — лірнікаў апошніх.

Кларнет пяшчотна дзядзька Нічыпорык,
Пяюху-скрыпку, як нявесту, сын

Больш не прылашчаць... Ціха на спачын
Пайшлі ад нас труба, баян, гармонік,

Што між баёў, агню на ратным полі
Дух воям уздымалі, сілу волі.
Удовы горка плакалі пад іх.

(Ігралі на вяселлі ў вёсках потым)
Нявеста-сірата... І ён — жаніх...
Жыві наканаваны век і помні...

*10*

Жыві наканаваны век і помні...
Глядзіць на Спаса яблык на траву —
Калі не ты, дык, пэўна, я сарву
Ці вецер шустры раніцой, апоўдні...

І горкі наш адчай бывае позні,
Нібыта сакавіцкі мокры снег.
Хто верне музыку маёй сасне,
Што між сясцёр панікла ў скрушнай позе?

Ты вырваў языкі ў святых званоў —
Сам анямеў на цэлых сто гадоў.
Ды спеў званоў заўсёды будзе з намі —

Я чую векавечны іх «бом-дзын»,
Які мне зноў штодня напамінае:
Ты крочыш па зямлі такі адзін...

### *11*

Ты крочыш па зямлі такі адзін...
Табою неспазнаны шлях — пачаты...
Ты малады яшчэ, хоць біты-мяты.
Але хто сочыць сумна, паглядзі,

Вунь за табой з-за цюлевых гардзін?
А ці не Зоя — боль святы і страта?
А побач з маці хлопчык зухаваты
Свой нос кірпаты ў шыбіну ўсадзіў.

Ён грае губкамі ў аконнай раме...
А тата дзе яго? Прагнала мама...
Пад хмелем дэбашырыў у сям'і,

Жыў, як залётны салавей у маі.
Акно... Ты безгалосая у ім...
Як дрэва, птушка,— кожны голас мае...

### *12*

Як дрэва, птушка,— кожны голас мае...
Навошта ж тады галасам чужым
Ты падпяваў не раз і сім, і тым?
Ішоў ты па крывой, калі прамая

Цябе, як дзень, даўным-даўно чакае?
Бяссрэбранік ты быў і пілігрым,

Чаму ж наклаў густы на твар ты грым?
І кожны ад сябе нібы ўцякае...

Ды ад сябе ніколі не ўцячэш —
Праплыў наўзбоч, не вернецца каўчэг...
Абняць бы ля старога тракту з жалем

Бярозак жоўтых купку і асін...
Ты напішы, як прашчур на скрыжалях:
— Не пасынак ты краю — родны сын.

## *13*

Не пасынак ты краю — родны сын:
Зайграй на скрыпцы, дудцы ці кларнеце,
І адгукнецца продак даўні недзе...
А ты ўсё на гітары — дрын ды дрын...

І музыка са струн, нібы з адрын
Цапоў удары — пыл адзін, абмецце...
Чувацъ здалёк альты: — Нас зразумейце...
Няўжо не заўважалі вы радзін

Нязвычных нашых? Нас вы спарадзілі
І час ваш зімны, горкі, як рабіна...
Я разумею даўкую віну —

Не па дарозе мне, прызнацца, з вамі...
Крану зямлі адвечную струну:
— Будзь там, дзе люд твой плача ці спявае...

*14*

Будзь там, дзе люд твой плача ці спявае,
Бо прыйдзе некалі няўмольны час,
Калі мяне, цябе і, пэўна ж, вас
Не пад гітары бор закалыхае...

І на памінках нехта паўздыхае...
Успомняць, што ты ў спадчыну прыпас,
Ці проста быў, нібы пусты баласт,
Транжырыў дні — сцінала аж дыханне.

Чужое ўсё, заморскае любіў —
Як попка-папугай, яго хваліў
І ад яго рабіў жыцця адлікі...

Сваё ты бэсціў, ганьбіў і крышыў...
А з гэтым, як казаў вясковы лірнік,
Хіба пачуеш музыку ў душы?

*15*

Казаў: пачуеш музыку ў душы,
Што з-пад нябёс зыходзіць тайна
(Жыццё ў палоне роздуму, пытанняў),
Кідай усё, садзіся і пішы...

Ты толькі супраць Музы не грашы
За нейкі ржавы медны грошык танны.

Твары, як Бог, бунтоўна, апантана
Не ў хаце — ў вечным райскім шалашы.

Хай дух няўтольны свет стары напоўніць...
Жыві наканаваны век і помні:
Ты крочыш па зямлі такі адзін...

Як дрэва, птушка,— кожны голас мае...
Не пасынак ты краю — родны сын.
Будзь там, дзе люд твой плача ці спявае...

* * *

Мая даверлівасць —
чародка дзікіх качак
на азярыне.

Вунь яна плыве
па промнях сонца
да берага,
дзе шуміць чарот...
— Дзень добры!
Будзь маёй надзеяй,
чарацінка...

Ды што гэта?
Нечая дзікая рука
вырывае танюткую,
замахваецца ёю...

І чародка даверлівасці
рассыпаецца ўбакі
па хвалях —
зыбкасці лёсу,
па сонечных бліках сполаху.

Ды зноў праз нейкі час
чародка вяртаецца
да берага —
а раптам была памылка?
А раптам пашанцуе?

Усё бліжай
і бліжай бераг...
— Дзень добры!..

—?! —
пытальнікам надзьмуўся чарот,
рулю-клічнік
напагатове трымае,
пільна ўглядаецца ў «мушку»...
Яшчэ секунда...
Яш-чэ...

## ІСЛАЧ. СТУДЗЕНЬ—88, 89, 90

Як з вены парэзанай кроў —
рачулка бруіцца...
Альшыны ў нахіле —
міласэрныя сёстры.

Строма...
І верхнікі-вої
зрынуцца зданямі ўніз —
і сеча пачнецца...
Зводдаль сосны і елкі —
Яраслаўны ў адчаі...

Тысячагоддзе і мы...
Што стала з часам?
Трава на марозе
ці мароз на траве?
Снегу-бінту няма,
каб перавязаць рачулцы рану...
Бугры кратовыя на лужку,
як струпы.
Стронга з рачулкі-вены
вырвацца хоча...
Толькі куды?
Можа, адзіны ратунак
гэтая вена — рачулка
тут, каля Ракава?..

Строма, стронга і стронцый...

* * *

Жыву пустэльнікам між лесу
 ў чаканні,
 як маланка,
 што вось-вось выблісне
 з кудлатых хмар...

Ударыў пярун...
Маланка ці мой ровар
 імчыць у бок Заслаўя?
 Пагоркі тыя ж,
 што і пры Рагнедзе...

Дарогу козы пераходзяць
з поўным вымем.
Пастух стары...
Рагожа...

 — Адкуль?
 Як ваша імя? —
 пытаю...
Стральнуў з-пад броў,
нібы стралою з лука...

 І бачу:
 ён ляціць,
 той позірк,
 да белай камяніцы,
 што на гары мястэчка...

Зірнуў —
працяў вякі пастух...
  А козы,
  як тады,
  ідуць,
        ідуць
  з напятым вымем...

* * *

Хата цёткі Волі —
былая драўляная школка,
дзе за партай сядзяць
мае восем гадоў...
Хата, поўная галасоў,
якіх ніколі ніхто не чуе,
акром Вашай адзіноты,
цётка Воля.
Гэта яна, адзінота,
вартуе нячутныя галасы:
«гістарычкі»,
якую забіла громам,
завуча,
што памёр ад «рака»,
фізрука,
што разбіўся на машыне,
і нашы яшчэ не зламаныя галасы,
нібы ў Раберціна Ларэці...

## ТРАГЕДЫЯ МАЦІ, ЯКАЯ ЖЫВЕ АДНА...

Загінула кошка Каця...
   Загінуў сабака Шарык...

Каця несла сваім кацяняткам
   мыш з жыта —
не паспела перабегчы шашу:
пад колы машыны патрапіла...

Шарык сарваўся з прывязі —
   пагойсаць хацеў:
забег на суседаў падворак —
   сусед працяў яго сахаром...

Слёзы маці — імгненні-ўспаміны —
падаюць на маленькіх кацянят,
   якія ліжуць малако,
   якіх пакінула Каця...

# КАЗКА
# ПРА КРАКАДЗІЛА

Бераг кракадзілаў...
Як дзіўна і страшна!
Не пальмы, секвоі,
А елкі і сосны шумяць...
І рэчкі, лугі —
У лілеях і смолках...
Дык як жа ты трапіў сюды,
кракадзіл?

Я чуў у маленстве —
я верыў тым чуткам:
як страшылі імі дома малых! —
аднекуль —
адкуль жа? —
па рэчцы дзяцінства плыў
кракадзіл...

— Купацца — бронь божа! —
сынок, не ідзі...
Бо з'есць ён:
не зубы — а вепра клыкі.

— Дачушка, на лузе
не рві ты кветоў,
бо, кажуць, выходзіць
у кветкі ён грэцца...
І летась касцу,

бязногаму Янку,—
вунь, бачыла ты,—
адкусіў ён нагу...

Казалі,
дзяцей нарадзіў ён сваіх,
якія раслі не па днях —
па гадзінах,
і гэтак, як продак,
хапалі здабычу сваю,
а часам былі
і ахвяраю бацькі...

...Наіўная казка дзіцячая,
скажаце?
Падумайце лепей:
адкуль жа быў родам
той
кракадзіл?..

# МАДОННА З ІГОЛКАЙ

На палатне
Леанарда да Вінчы
уславіў
мадонну Літу,
пакінуў з намі
да скону вякоў...
Глядзім — і воч не адвесці...
Цябе ж, мадонна з дзіцёнкам,
як Літа,
толькі са шпрыцам наркаманкі,
экран тэлевізара
пакінуў з намі
на пяць хвілін,
і гэтага часу хапіла,
каб зненавідзець цябе
да скону вякоў...

* * *

Калі апускаеш павекі —
знікаюць маланкі, азёры,
і ты насупраць мяне —
толькі абалонка сябе...

Прашу: не апускай павек
век —
хай маланкі мяне працінаюць
і цягнуць на дно азёры...

* * *

«Ісаакій» над Нявою...
Стаю, разглядаю іканастас...
Нас двое:
я і нябачны мастак
у намітцы мінулага веку,
акадэмік,
родам з вілейскай вёскі Цынцэвічы,
Сіліванові́ч...
Фрагмент іканастаса
«Тайная вячэра»...
Вось Вы, акадэмік,
зрабілі апошні штрышок мазаічны,
некалькі крокаў ступілі назад —
на цэлую вечнасць наперад...
Я — нямею ад здзіўлення...
Вы — узнёслы,
быццам стагоддзі,
якія будуць глядзець
на іканастас
«Ісаакія» над Нявою...

## АДАМ ГУРЫНОВІЧ
## У ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЙ КРЭПАСЦІ

Хаджу па камерах
Петрапаўлаўскай крэпасці
і ўсё думаю:
дзе тая камера?
Можа, вось гэтая
пад нумарам 10... 40... 65?
Мне неабходна прыпасці на калені,
на якія ты ніколі не падаў,
нават калі цягнулі поцягам
скрываўленае цела
з катавальні ў карцэр...

## У МІХАЙЛАЎСКІМ

Прабач мне,
што буду пытацца,
а адказваць не буду,
бо гэтыя ліпы і елкі
даўно расказалі табе
пра век мой,
такі не падобны на твой...
Яны — два суседзі,
якім не змірыцца ніколі,
яны — як «прыказчыка дом»
і «дом няні» тваёй...
Прабач мне,
што буду пытацца...
Пытацца ў шыпшыны, травінкі, лістоты,
Ганібалаўскіх дрэў,
што ў неба ўраслі...
Пытацца ў дзівосных азёраў —
Куча́не,
Мале́нец,
вячыста-крыштальнай Сораці-рэчкі...
у далін, лагчын і ўзгоркаў,
«Адзінокага дуба» з гнёздамі чапляў,
і стройнай «алеі Керн»...
Пытацца ў стала, чарніліцы з абмакнутым
гусіным пяром,
ва ўсіх хатніх рэчаў бабулі Арыны,
як звон, прыцягальных...
Урэшце, пытацца ў гэтай «райскай ссылкі»:

— Ну як не магла ўратаваць
ненароджаных столькі шэдэўраў для нас?..
Ну як магла,
душу ўвабраўшы тваю да астатку,
сэрца аддаць тваё
ў Пецярбург
на дуэль?!.

## КРЫШТАЛЬНЫ САСУД

За акном маім —
крышталыны сасуд...
Дно яго —
заснежаны грунт.
Сценкі —
дрыгуча-марозныя бярозкі.
Адтуліна —
сцюдзёна-сіняе неба.
У ім, крыштальным сасудзе,
бачу: лыжнікі палкамі размахваюць —
не пабілі б сценак.

Тралейбусы бегаюць —
ад бугеляў іскры ляцяць:
не падпалілі б страху неба.

Па снезе імчацца
«Масквічы», «Жыгулі»,
людзі падэшвамі шоргаюць...

Выйду, папярэджу:
«Асцярожней,
дно не пратрыце —
не загубіце мой
крыштальны сасуд...»

* * *

Час без сэрца...
Ён ідзе
па праспектах,
вулках,
вёсках...
Запытаць?
Ці мо спыніць?
Толькі як?
Ён ідзе,
нібы бульдог,
ён ідзе,
нібу бульдозер,
вось-вось зрэжа
вас
пад корань:
Тухачэўскі,
Блюхер
і Якір...
Апране
у белае адзенне
сцюж сібірскіх
не адных «дзяцей Арбата»...
...Час без сэрца —
веру і не веру —
прататыпам робата
ён стаў...

## У НАПРАМКУ ВАГАНЬКАЎСКІХ

У гэтым кірунку
   між дрэў
   па тратуары
   міма калгаснага рынка
побач са мною ішлі
   героі Шэкспіра —
   у штруксах,
   джынсах,
   «бананах»:
клікаў іх Гамлет
у груба вязаным світэры...

«Быць ці не быць?» —
   колькі стагоддзяў,
   як лісце з таполяў,
   упала яму да ног,
а пытанне вісела,
   як ліст апошні на дрэве...

Вось і ўваход у Вечнасць...
   Справа смяецца клоун Енгібараў,
злева — лепшы лірык Расіі Ясенін,
   і прама перад усімі —
   Гамлет...
Ён прыйшоў сюды,
            апярэдзіўшы час свой,
   што ўвесь у каросце, калючках...

Стаў перад саборам Вечнасці,
  коней узняў на дыбкі
  струною гітары...
Перад вамі,
  героі Шэкспіра,
  спавядаецца словам
    «Быць!..»

* * *

Аб чым шуміш, вада рачулкі безназоўнай,
каля былога млына,
ля тракту кацярынінскага,
каля царквы,
касцёла,
якім паўтысячы гадоў,
пад сённяшнім бетонным мостам?..
Ды раптам чую ў адказ:
— Не пытай
і не стой,
а ідзі
па лязе часу,
па шыпах дзён...
І залунаюць анёлы,
якія падхопяць цябе
і панясуць на спатканне,
дзе ніколі не быў ты
і ўжо быў...
— Дзень добры, Мацей!
— Дзень добры, Лукаш!
І пазнаеш сябе...
Там пекла і рай...
Там мукі і радасць...
І вернуць назад драконы,
што выкідалі іконы,
а пасля з касцёла
зробяць сельмаг,
а з царквы — вінную краму.

Дзе ўбачыш чорных курэй-чубатак,
нібы манашак,
і пеўняў, даўно ачмурэлых,
якія не разбяруць,
што там на сценах
касцёла, царквы —
мадонны
ці «голыя жанчыны»
мясцовых «монстраў-мастакоў»?..

* * *

Пад Вялікдзень ,
маці булкі пячэ,
дакладней, чаруе...
Закасаны па локці рукавы —
месіць бясконца цеста,
як Бог гліну
перад стварэннем свету...
Затым накладае цеста ў формы —
місачкі, міскі, цёрла...
Ды ўсё гэта нішто
ў параўнанні са зместам,
які по́д і паднябенне печы
вынесуць нам на рукі...

* * *

Дзікія качкі
па раннім лядку
  ў лістападзе
  ідуць...
Ім здаецца —
  плывуць...
  Няўклюдна лапкамі ззяблымі
адпіхваюць лёд,
пакаўзнуліся,
упалі,
  як фігурысткі няўмелыя.
Хтосьці з вас падзівіўся,
нехта ільдзінкі шпурнуў
і кінуў смяшок...
  І ніхто не здагадаўся,
  што гэта ж мы самі,
калі пазбавіць умоў,
  у якіх прывычна
  існуем...

* * *

Дадому еду
З жаваранкам у сэрцы,
З варонiным граем
Я назад вяртаюся —
Вузее круг зямляцкі.

— Памёр Мікола...—
Прамовіць з жалем маці,—
Апошні ратнік...
Вузее круг зямляцкі...
Шырэе пляц магільны...

# МАНАЛОГ СНЕГУ, ЯКОГА НЕ БЫЛО...

Куды?
Дзе?
Што? —
Пытанні вы задаеце, людзі...
Я ў гэтых пытаннях сам растварыўся,
як цукар у шклянцы чаю.
Сіноптыка збіў з панталыку:
«мінус» мяняю на «плюс»,
«плюс» на «мінус»,
як мяняе капрызная модніца
свой гардэроб...
Я — ў мройных дажджынках,
што падаюць з неба нявіннага,
даўно асуджанага позіркамі
лыжніка, зайца і курапаткі,
а яшчэ — азімага жыта...
Кажуць, вулкан незвычайны зямны
мяне растапіў...
Не верце...
Вулкан чалавечых страсцей,
які аж кіпіць на планеце,
куды верагодней...

* * *

Чаму я люблю
вераснёвае сонца?
Мо таму,
што яно,
як месячнае святло,
прасвечвае да дна
душу,
а не аблівае загарам
цела,
як сонца ліпнёвае...

# БЕЛЫ АГОНЬ,
# АБО ЖУКАЎ БАРОК

ДЫЯЛОГІ СТАГОДДЗЯЎ

У вярхоўі Нёмана ў своеасаблівым «салаўіным гняздзе» — у Жукавым Барку ці непадалёк ад яго, што на тэрыторыі цяперашняга Стаўбцоўскага раёна, у розныя вякі жылі славутыя людзі свайго часу:
у 18 стагоддзі — філосаф, аўтар больш як 30 прац па этыцы, эстэтыцы, атэізму, а таксама аўтабіяграфічнай аповесці, якія былі шырока вядомы ў Еўропе, Саламон Майман;
у 19 — вядомы польска-беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля, беларускія літаратары-дэмакраты Вінцэсь Каратынскі, Адам Плуг, Карусь Каганец;
у канцы 19 і пачатку 20 стагоддзяў — Фелікс Дзяржынскі, Янка Купала, Якуб Колас.

Голас будучыні

Зямля, дзе Нёман заламаў луку,
дзе бор і поле —
як скрыжалі...
Паселішча, тваю чытаю памяць
на скрыжаваннях мечаных вякоў...
У глыб калодзежа гляджу —
там бачу:
не зор адбіткі,
а вачэй святло.
З далёкіх дзён яно струменіць,
як рэчкі плынь,
у вечную душу...
Стаю на камянях,

што некалі падмуркам
былі,
падрубы спарахнелі...
А постаці ідуць,
ідуць,
як волаты...
Страчайце іх,
вякі...

Голас постацяў
*(да стагоддзяў)*

Па волі аўтара
сышліся мы на веча,
нібы князі
пасля апошняй сечы...
Мястэчка знакамітае,
як люд наш паспаліты.
Святыя карані
зямлі дзядоў
і прашчураў далёкіх...

Уладзіслаў Сыракомля

У «вандроўках
па маіх былых ваколіцах»
я голас Буднага
з Нясвіжа чуў,
з-пад Крошына —
стук молата Багрыма...
Яны ў радок мой заляталі,
як пчолы ў вулея ляток...

Саламон Майман

Я птушкаю-сіроткай
ляцеў з наднёманскага бору
ў саноўную Еўропу.
Хацеў навуку забрытаць,
як верхнік стрыгунка.
У Кёнігсбергу
Кант руку пацiснуў,
сам Гётэ
у Берліне папытаў:
— Ну, як жывеш, Маймане?
Твой шлях праменны...
Будучыні вер...

Вінцэсь Каратынскі

Лядашчае жыццё...
А думка як шугала,
як полымя апоўначы на Яна...
Мы кветку-папараць шукалі
сярод палян, дрыгвы, трысця...
Жыла надзея-матылёк,
што час наш апярэдзіць
слова,
апусціцца на кветку шчасця
хоць калі...

Уладзіслаў Сыракомля

Я верш тут з сэрца выплеснуў —
ці помніш ты, Вінцэсь?
Гісторыю ад фурмана паштовага

пачуў я ў карчме
ў Міры...
Каханая яго зблудзіла ў завіруху
і клікала яго,
як пошту вёз.
Не голас — здань...
І ён не адазваўся...
Калі вяртаўся,
знайшоў дзяўчыну змёрзлай
на дарозе...
Верш песняй стаў
«Ямщик» —
так пераклаў па-руску Трэфалеў.
У сэрцы маім вобраз той дзяўчыны
жыў да скanання...
Здавалася яна —
«Айчызна мóя...»

Адам Плуг

Мае аповесці,
раманы...
Хто вас чытае?
Ведае хто вас?..
Гняздо паэтаў —
Жукаў мой Барок...
Сябры мае —
і Людвік,
і Вінцэсь
(і ты, Вінцэнт з Люцынкі,—
хадзіў я ў госці да цябе).

Без вас мне горасна было б,
як старцу пры дарозе...

### Саламон Майман

Паглянь,
        Адам,
                на нашы сцежкі —
сляды ўтравелі, крокаў не чутно...
А ў сэрцы — той шынок,
дзе гамузуюць мужыкі...
І дзежка з кіслаю капустай
мне даражэй была,
чым пачастунак караля...
Жыў тут Савон —
памешчык-самадур,
што бацьку звёў майго са свету:
вядро вады ён выпіць загадаў —
так я кармільца страціў назаўсёды...
Без грошыка ў кішэні,
як галітар,
я рушыў пешшу ў Кёнігсберг...
Пакінуў бацькаўшчыну я...
Але ў дарозе, у вандроўках
я помніў, пупавіна дзе мая...
У Кёнігсбергу
і ў Берліне,
дзе я жабрачыў,
стаў ерэтыком,
мне пах капусны сніўся па начах
і гам мужыцкі у шынку...

Хацеў Айчыны летапіс я выдаць,
ды бюргеры мяне не зразумелі...

Уладзіслаў Сыракомля

Тутэйшы гаспадар,
вясковы лірнік,
я гербы мажнаўладцаў паспытаў...
Ды словы родныя літвінаў
з грудзей збалелых,
быццам птушак,
выпускаў...

Вінцэсь Каратынскі

Твой сакратар,
дзесяць тамоў тваіх я выдаў,
Людвік,
і ведаю цану вясковай ліры...
Як песні Беранжэ,
якія пераклаў я,
былі і твае песні з-пад страхі...

Адам Плуг

У замку радзівілаўскім, касцёле
у Нясвіжы,
у Вільні і Варшаве,
і ў нашай жукабораўскай царкве
гучала наша слова,
і кнігі нашы
мужыкі чыталі...

Карусь Каганец

О людзі! Так было спрадвеку:
вы светачаў зямлі гасілі,
як лучыну...
На шыбеніцу трапіў Каліноўскі,
а бацька мой — адважны касінер —
у сцюжную Сібір,
дзе я ў Табольску нарадзіўся.
Вяртанне на радзіму,
у Засулле,
што ля Нёмана,
было нам — нібы з выраю буслам...
Я Будзімірам стаў —
будзіў людзей
і нёс агонь асветы:
мой лемантар чыталі дзеці
ў Жукавым Барку...
Дух Беларусі ўздымаў,
як крылы жорава,
над парнаю вясноваю зямлёй...

Янка Купала

З сястрою Лёдзяй быў я у Няшоце,
на хутары, што побліз Рубяжэвіч
*(Бальшак адсюль*
*бяжыць да Жукава Барка).*
Гасцілі мы у цётак і дзядзькоў...
Мой радавод па маці —
Валасевічы:
жылі тут з незапамятных часоў...

Камілія, Антон,
Францішак і Садалія,
Міхал і Зося —
сёстры і браты —
чыталі Будзіміра
«Наш сымболь»:
«Адважна, браццы, наперад ідзіце
Цвёрдай і правай ступою!
Кожнаму смела ў вочы глядзіце,
Праўду нясіце з сабою!
За родну краіну, звычай і мову,
За гонар груддзю ставайце!
Да будзьце верныя сваему слову,
За праўдай заўсёды трывайце!»
Ці не тады агеньчык «боскай іскры»
у сэрцы разгарэўся у маім?..

### Карусь Каганец *(да Коласа)*

Турэмны замак мінскі —
мой астрог,
як бацьку некалі —
Сібір...
Ці думалі, што стрэнемся мы тут?
«Паэт, што слаў у «Нашу ніву»,
тутака...
Завецца ён Якуб...»
Шчэ год назад я вокладку
тваёй «Чытанкі» маляваў...
А сёння — нары ў нас адны...

Якуб Колас *(да Каганца)*

На Нёмане ў сваіх Мікуцічах
Я чуў пра Будзіміра,
што недзе побач жыў...
І нат радкі запомніў:
«У трубу зайграема —
Голас лесам пусціма,
Гукнем па балоту жа,
Каб усім было чутненька!»
А цяпер во пачытайце
мае «Песні-жальбы»...
*(Дастаў з-за пазухі
свой першы зборнік вершаў.)*

Карусь Каганец *(чытае)*

«Сонца ўстане, сонца зайдзе,
Дзень заменіць ночкі цьма.
А над намі чорнай хмарай
Вісне цесная турма.
Птушкі вылятуць на зіму,
Птушкі зноў лятуць сюды,
А мы томімся ў астрозе,
Трацім лепшыя гады».

Якуб Колас

Я вобраз дзядзькі
Казіміра Кастравіцкага
ці Будзіміра-Каганца
пранёс па сцежках палыновых
да канца...

І тых «12 рысуначкаў»,
што ён намаляваў у камеры
да вершыкаў маіх,
былі — як месяцаў 12:
з іх кожны радасць —
ад зімы да восені —
прыносіў мне
і пах вясною крыгаломнаю,
бунтоўнай...

## Фелікс Дзяржынскі

Дзяржынава маё...
І пушча налібоцкая...
І рэчкі Вуса, Нёман...
Хоць не паэт я —
думаў, як аб казцы:
я часта бачыў у астрозе
дом наш,
сосны
і горкі белага пяску...
А там, за пушчаю, за рэчкаю —
мястэчка,
дзе вы,
спадзвіжнікі,
жылі...
І дух вясновы ваш,
што рваў душы апоны,
мяне з-за царскіх кратаў
узносіў да нябёс...

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Качагар Бяспамятны
*(ля кастра з кніг
на месцы былой царквы)*

Заняпала мястэчка...
Нехта жыў тут калісьці...
Во й не стала царквы,
як анёлы ў неба ўзнеслі.
Старадаўнія кнігі...
Здаецца, хлам'ё,
а чаму ад іх белы агонь —
не дацямлю?
Бляск такі, як ад поўні,—
слепіць ажно...

Намеснік старшыні райвыканкома
Улучкоў
*(убягае, засопшыся)*

Улучыў вось хвіліну...
Пастой! Не палі!
Палаюць не кнігі царкоўныя
(нам пазванілі),
а кнігі вялікіх людзей,
ды, кажуць, яшчэ і тутэйшых...
Расцяпы... Расцяпы...
Ну, вось табе... белы агонь...

Рэха царкоўнага хара лу

Анафема!
Анафема тым,
хто не помніць
роду свайго,
і вечная памяць,
вечная памяць,
хто светачам быў
у народзе!

(З верша Максіма Багдановіча «Каганцу»)

«Гэтак часам уходзіць у землю крыніца,
Дзесь у нетрах таемна бяжыць,
Але мусіць урэшце на волю прабіцца.
Шмат яшчэ па зямлі будзе ліцца-каціцца
І радзімаму краю служыць».

* * *

шматвекавы —
прапрадзед —
нязграбны граб
на лесавой паляне
трымае поўню ў небе
на руках-галінах
упёршыся нагамі-каранямі
у зямлю
баіцца старэча
каб не патухла
начная лямпа
пад якою ў лесе
ўвішныя мурашы
хаваюць у свой мурашнік
нашы грахі
якія мы
людзі
пакінулі ў лесе
за дзень

* * *

чорнае варанне на дрэвах
з пагардай глядзіць
на вусеня-электрычку
што паўзе па шпалах
на «божыя кароўкі»
легкавушак
якія імкліва ляцяць
па шашы
што яму мроіцца?
абед...
ах як хочацца здзяўбці
«вусеня»
і «божых каровак»!
але баіцца нацэліцца —
а раптам...
надта ж падазроныя...

## ЗАДУШНЫ ДЗЕНЬ

вечар асенні
задушны дзень
за горадам могілкі
свечкі на іх
быццам агні
ў вокнах дамоў

два гарады
тут і там
задыхаемся
успамінаем
памінаем
сябе

вечар асенні
задушны дзень

* * *

тумановая цераспалосіца
па шашы
ад Мінска да Брэста
так і едзем —
то сонца
то зноў туман
быццам ныраем
са шчырасці ў зман
то са зману ў шчырасць

вунь наперадзе ты
непастаянная
зараз узнёслая
побач нехта з табою
хто ён?
сосны яго назавуць

як бягуць
як бягуць
дні назад
нібы дрэвы прысад
ды з сонца ў туман
ды з туману ў сонца

тумановая цераспалосіца

* * *

дрэвы праходзяць ля нас
не мы каля дрэў
халоднасць —
азёры зашклёныя лёдам
адчужанасць —
саркафаг неба
забіты цвікамі зорак

чыя гэта вопратка —
абалонка душы —
уся ў ваўчках-дзядах —
дзірах пад мікраскопам?

што вы нясеце?
глобус галавы
ці галаву-глобус?

сэрца наканечнікам пікі
пранізвае далячынь —
халоднасць
і адчужанасць

правіннасць —
калючы ядловец
залез у нутро
душу выварочвае...

## ТАЯ СТУДЗЕНЬСКАЯ НОЧ...

месяца вока
стальн-ое
сі-бернай
завеі
жалезныя розгі
сцябаюць
па скручаных голлях-руках
ні ў чым непавінных
ясеняў
яшчэ хвіліна —
і постаці дрэў
пойдуць у снежныя лёхі...

# МІНІ-ВЕРЛІБРЫ

* * *

Адыходзячы — азірніся:
ці наперадзе будзе твой след?..

* * *

Пакуль у рэчкі віхлясты шлях —
шлях яе ў будучыню прамы...

* * *

Ёсць нешта страшнае ў сонцы,
якое заходзіць на небасхіле між хмар:
здаецца, яно не само памірае,
а памірае душамі блізкіх людзей...

* * *

Хаты вечарам — зоркі на Зямлі:
свецяць вокны таемным святлом:
Хто вы, зоркі?

* * *

Пасівелі дзьмухаўцы пад маімі нагамі —
так доўга ішоў да цябе...

* * *

Жанчына —
ластаўка, якая ў вечнай
трывозе:
то кідаецца ўніз з гнязда,
то вяртаецца зноў...

* * *

Просьба дачкі-першакласніцы:
купіць ёй глобус, бінокль і мальберт —
сімвалы Зямлі, пільнасці і прыгажосці...
Як дзіўна — не дадумаўся б дарослы...

* * *

Тэлескопы дамоў,
аэрастаты дымоў, цыгарэты ракет
у неба імкнуцца, у неба...
І толькі знічкі, якім надакучыла неба,
падаюць з радасцю на зямлю...

* * *

Чалавек — жывы адрэзак часу:
не ўкарачіце і так кароценькага яго...

* * *

Боты прашоргалі па дарозе,
падвода натужна праскрыпела,

машына, тармозячы, праскрыгатала,
    а дарога...
дарога не войкнула...

* * *

Апускаюць нябожчыка ў магілу...
Слізгануў па ілбе апошні прамень сонца...
    І быццам пясок аб рыдлёўку,
скрыгатнуў у сэрцах жывых боль...
    Стаяць у маўчанні мужчыны, жанчыны...
Кожны ў сабе хавае надзею:
    яшчэ далёка...
Яшчэ не хутка
слізгане па ягоным ілбе апошні прамень сонца,
    і быццам пясок аб рыдлёўку,
скрыгатне ў сэрцах жывых боль...

* * *

Іканастас неба —
    зоркі і поўня...
Месячная ноч —
    храм,
у якім я малюся
    на цябе,
мая адзіная...

* * *

У дзень прыняцця Закона аб Мове,
26 студзеня,
неба над вёскай працялі
маланка і гром...
Свечку маці мая запаліла,
пацеры перад іконай вымавіла...
— Праява...— перажагналася.—
Дзяды такога не помняць...
Вёска назаўтра за ёю паўторыць...
А я падумаў:
«Ёсць Бог на свеце ўсё-ткі...
Гэта ж ён громам — басам
у міжзім'і пацвердзіў жаданы Закон
і ў канцы паставіў маланкаю
клічнік!»

* * *

Цэлае стагоддзе
вёснаў, летаў, восеняў, зімаў
панесла з сабою
бабка Магдалена...
Цэлае стагоддзе
радасцяў, смуткаў, боляў, пакут...

6—1262

# АСТРАГЛЯДЫ, АБО НАДЗВЫЧАЙНАЯ СІТУАЦЫЯ

Афганістан-79...
Чарнобыль-86...
Грузія-87
Арменія-88...
? ? ?-...

* * *

Калі насоўвалася хмара навальнічная,
мая бабуля стогадовая
на падваконне ставіла
  свянцоную вярбу,
на вербніцу насіла што ў царкву.
  Малілася:
«Божа святы! Абыдзі перуном,
  не закрані маланкаю хаты...
Вунь бачыш: унукі дрыжаць у куце —
баяцца зірнуць у акно...»
А калі падступала вада напрадвесні
  з нёманскай поймы
  да самага ганку,
мая бабуля
  набірала ў прыгоршчы вады,
шаптала заклён:
  «Адыдзі, адступі,
  вадзічка-вада,
вунь чуеш:

кароўка ў хляве мычыць
і куры кудахчуць —
пачулі бяду...»
Якія словы замовы
яна гаварыла б,
калі б убачыла
воблака стронцыю?..

* * *

Споведзь Надзеі Іванаўны Барсук з вёскі Астрагляды Брагінскага раёна, з якой я ехаў у адным аўтобусе.

...Былі Астрагляды.
300 хат — вёска.
Няма Астраглядаў...
Хоць хаты ў неба
пакутна глядзяць...

Хвядорын узмежак —
там піжма буяе:
падласку суседка
любіла прыпасваць.
Амелькаў падворак...
А студня нямая...
Не «закурлыча» над ёй «журавель»...
Куры Агаты —
дзве бурых чубаткі:
і як не злавілі іх? —

ходзяць па пляцы...
Кажуць, нядаўна лісу прыблуднаму
голаў прабілі...
Матка найсвентшая!
Продкі не зналі
гэткага дзіва...
Хай бы лепш тыгру
чэрап прабілі...
Гэта ж ён,
«тыгар»,—
страшны той год —
нам гора прынёс...
А гнёзды ў альшаніку
чапляў і галак
чорна-пустыя,
як знакі бяды.
Няма птушанятаў...
І школа пустая,
як тое гняздо...
А хай шчабятала б у ёй малышня.
Паверце:
вушы ад вусцішы глухнуць,
і сэрца,—
як ходзікі тахкаюць,
распятыя на голай сцяне...
Ой, айца, сына!..

* * *

Газетны фотаздымак:
з кабіны верталёта
журботны погляд
пажылой жанчыны
з-пад хусты кашміровае да броў.
А ўнізе Чаладзідзі —
паселішча між гор,
залітае вадой.
Плаваюць хаты, рэчы...
Побач — нечы тэлевізар
і дзіцячая лялька.
На сухім «пятачку» — парасё.
На касе-астраўку —
згорбленыя каровы.
Нядоеныя,
глядзяць на каўчэгі-хаты,
клічуць гаспадыню...
А яна —
вочы ад жаху па яблыку,
сухім кулачком падпёрты твар,—
у небе, як маці боская,
з розніцай той,
што на зямлі ўсясільная,
а ў небе —
бездапаможнае немаўля...

...Помню маці маю,
як развітвалася з каровай —

«Кветкай» сваёй:
адслужыла ёй праўдай і верай
12 гадкоў...
Зачынілася брама базы —
разлучыла «Кветку»
і гаспадыню.
З вачэй маці пакаціліся слёзы...
І калі села яна ў машыну,
доўга-доўга моўчкі азіралася
на браму...

...Журботны погляд жаночы,
з часоў Яраслаўны
не выказаць болю твайго...

* * *

Арменія — шматбальныя штуршкі
майго збалелага стыхіяй сэрца.
Пампеі век,
прапоўз ты праз вякі
у мой дваццаты, каб ізноў сустрэцца.
Праз тысячу гадоў лёс горада Ані —
сталіцы даўняй — напаткаў Спітак.
Завошта ж, Божа, разыграў спектакль
ты на зямлі
ў пекле і агні?
І сонца ў небе стала, як ікона,
людзей палохае яго злавесны лік...

Як мог ты,
высакосны год,
дракона
на развітанне выпусціць з зямлі?
Жывём — не ведаем, дзе праўда,
дзе спадман...
Якімі будзем, калі ноч міне?
На здымку вочы адкапанай Нураян,
яе дачушак —
як разгадка мне...

* * *

Ташкент...
Аэрапорт...
Я выпадковым госцем быў
вясны той азіяцкай...
Гарэлі ружы у руках
узбечак маладых.
А з самалёта па трапе,
быццам з воблака белага,
сыходзілі хлопцы.
Як купал неба —
сінія берэткі.
А на грудзях свяціліся,
як ружы,
ордэны, медалі.
З дзявочых рук прымалі хлопцы
кветкі.

І толькі адзін не мог
трымаць іх:
за яго сябры трымалі —
рук не было ў таго...
І раптам збоку
голас дзядзькі:
— Сын-ку!
Цябе сустрэць я
з Гомеля прыехаў...
І кінуўся ў абдымкі
да героя...
Нібыта сам дамоў
вярнуўся
з-пад Берліна
і сам сябе абняў...

* * *

Сядзім у хаце
ў палескай вёсцы
Быцень —
нябыт на шчасце абышоў:
прайшоў злавесны цэзій
бокам...
Глядзіць сын бацьку,
бацька — сыну ў вочы —
і слёзы на вачах...
Сустрэліся мужчыны...
Асколкі ў целе іх абодвух,

з той розніцай,
што ў бацькі — сорак год,
а ў сына — толькі-толькі...
  — Васіль...—
  прамовіў ціха бацька.
А здалося, што гэта слова —
боль і кліч Палесся —
  нясецца праз воблакі да сонца,
  якое набывае не колер дзьмухаўца,
  а колер ружы колкай...

* * *

Надзвычайны раён...
  Надзвычайная сітуацыя...
Я гляджу з Астраглядаў —
кропкі зямной.
  Востры погляд мой —
  Астрагляды.
Боль і вера мая —
  Астрагляды.
З вамі свет да грудзей тулю,
  як дзіця.
Мне балюча за ўсё:
  за паводку,
  за град,
  за лавіну ў гарах.
Невыносна душы, калі чую,
  чытаю,

што недзе і ў нас
спее
Пампея...
Разарвацца сэрца гатова на часткі
пры думцы,
што побач
з Пампеяй
можа ўзнікнуць
і Троя...
Век мой,
прашу цябе
з Астраглядаў:
Трою-Зямлю
не дапусці...
Амін!

## АКТАВЫ

* * *

Сядай жа побач на пракос, актава,—
Пагутарым пра час былы, дзядоў...
Гайдаўся травастой, цяпер — атава
Там, дзе вякі застылі між дубоў...
Нашчадак іх, я маю права
Сплаціць адвечны продкам доўг...
Укос заўсёды быў другі —
За прадзедаў, дзядоў кашу лугі...

* * *

Калядныя марозы — аж пад трыццаць недзе —
Каліна прадказала летам раннім мне:
Пяклі сцюдзёна, пунсавелі гронкі ў небе,—
Здавалася, што выпадзе ў спякоту снег.
А я стаяў на продка даўнім следзе,
Што ў травах пракаветных зрасянеў.
Ён, продак, мне падараваў прыкмету,
Каб я таксама не ўпусціў у Лету.

* * *

> Пад гэтым небам сінім і любімым не верыцца чамусьці ў небыццё...
>
> *Міхась Стральцоў*

Знік чалавек, нібы прамень, за хмарамі,—
Урэшце, ён і промнем быў:
Свяціў, гарэў, імкнуў за марамі,
А карацей, ён проста жыў.
Не страхаваўся — «Браце, марна!» —
Любіў лістоты ён матыў.
Знік чалавек... Трымціць па ім аер...
Як не хапае мне яго цяпер!

# КРУГ

## АКВАРЭЛІ ГОДА

### Студзень

Круг пачаты...
Босая сініца
да партрэта студзеня штрыхі
піша на сняжку каля крыніцы...
Неба — як настылы малахіт...

### Люты

Як чароўная фея,
ходзіць завея.
Побач з ёй люты,
модна абуты...

### Сакавік

Лядку гусіныя лапкі
на тратуары.
А ў лесе
здымаюць снежныя шапкі
сосны прад цнотай пралесак.

### Красавік

Цячэ, цурчыць дармовая
амброзія вясновая —
бярозавік,
кляновік...

## Май

Зялёны — я,
і белы — я:
мяне паўторыш,
чалавек...
Вунь ты — зялёнае дзіця,
качаешся ў траве...
А вось ты — белы,
нібы лунь...
Пражыў, як месяц,
век...

## Чэрвень

Завязь вішань —
завязь лета,
як жыцця самога завязь...
Салавей зайшоўся ў лесе
вераб'ям усім на зайздрасць...

## Ліпень

Як буяла, цвіло і кіпела,
стракацела ў лугах і гаях!
Дзе душа сама,
а дзе цела? —
не адрозніць было аніяк...

## Жнівень

Жыць — сеяць,
а не жаць:
запомніце, як запаведзь, сябры...
Саломы копы вунь ляжаць,
як эпілог сяўбы...

## Верасень

Пакасілі атаву вятры,
каля верасу селі пагрэцца.
Павуцінка лёсу ўгары —
гэтак лёгка яна часам рвецца...

## Кастрычнік

Дым кастрычны,
ты родам адтуль —
цягнеш хвост з пастушковага рання...
І ў сівых валасах матуль
асядаеш,
канчаешся раптам...

## Лістапад

Санату жоўтую лістоты
іграе на галінах вецер-гун...
Мелодыю сарве ён потым
і адляціць,
не зачапіўшы струн...

## Снежань

Прынёс ён палатна сувой,
чысцюткага,
як срэбра.
Раскочвае...
Зямлі сваёй
ён рад абнове зрэбнай...

7—1262

# БЕЛЫ ВЕРШ

Пад белым лебядзіным пухам,
па снежным мяккім дыване
бяжыш з маёй юнацкай мары
дзяўчынка — сімвал чысціні.

Гляджу праз голле дрэў зімовых,
як праз спляценне год сваіх...
Не дацягнуцца, не дагнаць мне
дзяўчынку — сімвал чысціні...

## ЛІЛЕЯ

Як балерына, ты,
  Лілея,
Як сімвал пекнаты.
Гляджу праз чараты —
  Хмялею.
Хоць побач гожыя квяты,
Як воблікі мадон святых,
  Мілей мне
Ты — маланка з цемнаты.

* * *

Фіялкаю загадкавай лясною,
Асенняй астры сціплымі пялёсткамі,
Іберысам гаркавым, як і лёсам,
Навекі незабудкай лугавою
Асвечаны цяпер мае нябёсы...

## ГЛОСА

Як птушцы шматгалосай,
Якой зайздросцяць совы,
У снежны край вясковы
Я шлю жанчыне глосу.

І хто мне напрарочыў
На схіле году, дня,
Што буду ў вёсцы я
Са знакам тайны — Ночавічы,
Што недзе ў Налібоччыне,
Дзе пушча, як філосаф,
Жанчыне з піжмы лёсам
Жадае дзень пры дні
Узлёту, вышыні,
Як птушцы шматгалосай.

Ляціш на крылах веры...
Было: яе забіць
Хацелі, разлюбіць
І выставіць за дзверы,
Як вучня. Дрэвы нервы
Напялі — і ні слова...
Павер у свет ружовы,
Хоць нават перад сном...
Будзь івалгай лясной,
Якой зайздросцяць совы.

Ах, зімы, вёсны, леты...
Ці ёсць той калаўрот,

Каб мог гады ў зварот
Пагнаць, як статак з лесу?
...Дзяўчынкаю-падлеткам
З аўсяным светлым бровам
Сцяжынкай чабаровай
Бяжыш па-над Сулой...
А побач шлях і мой —
У снежны край вясковы.

Гляджу: табе на плечы
Сняжынак лёг узор —
І можна аж да зор
Плыць шляхам белым — Млечным.
Пакуль! Бывай! Да стрэчы
У пушчы ці ля плёсу...
Пачуцці, быццам восы,—
Не адагнаць нам іх...
Стань вечным гэты міг —
Я шлю жанчыне глосу.

Я шлю жанчыне глосу
У снежны край вясковы,
Якой зайздросцяць совы,
Як птушцы шматгалосай.

# ЭЛЕКТРЫЧКА НА СТОЎБЦЫ

...Воўчкавічы, Фаніпаль, Бярэжа...
Гэта ўсё яшчэ мярэжы.
Клыпаўшчына, Койданава, Станькава...
Гэта проста, проста станцыі.
  Бег імклівы... Сінь нябёс...
  І вось —
  Не-га-рэ-ла-е...
  Як знак,
  што я тут
  зямляк, сваяк...
Я суседу не скажу,—
а яму і не дазнацца,
што праехалі мяжу,
хоць і ў думках,
і ў трыццатых...
  Час той горкі...
  «Тут быў Горкі...» —
  дошку ўбачу на сцяне —
  як імгненне прамільгне...
Нагадае Коласава
(шпарце, колы,
колы, шпарце!)
верш славуты Маякоўскага
аб савецкім пашпарце.
Гэта тут, нібыта брытву,
з рук паэта пашпарт браў
той чыноўнік ганарысты,
не таможнік — а ўдаў.

Лес...
Крынічка...
Ззяе сонца...
Электрычка —
стоп!
Мы — ў Стоўбцах...

## НЕМАН

Прыйду на берагі
твае крутыя,
дубоў дзе караніцца род,
дзе хвалі
срэбна-залатыя
калышуць памяць,
як чарот.

Рака мая,
праз дні мае віротныя
бяжыш —
твой разумею спех...
Ды недзе там,
за выдмай,
паваротам,
прыпыніш,
як і я,
на хвілю бег.

Нам ёсць
над чым падумаць...
Бо стагоддзі
плылі табой,
нібы варагі ў грэкі...
Легенды, былі
у маім народзе
жывуць часцей там,
дзе крынічаць рэкі...

Ты рушыш зноў за даляглядным
часам,
аддаўшы плынь гарэзу-быстраку.
І доўга буду я
з маімі днямі разам
рукой махаць,
праводзячы раку...

## КРУПІЦКІЯ МУЗЫКІ

Перастукі... Перагукі...
Перазвоны... Пераграі...
Ад дзядоў душа да ўнукаў
перайшла ў спеўным краі.

Ажываюць скрыпка, бубен,
берасцянка і басэтля...
У гняздзе танцуе бусел,
і кружляе поўня светла...

# НАДПІС НА ПОМНІКУ

Не меў ні жонкі,
ні дзяцей —
жыў сабе
абы-абы...
І таму пакінуў
толькі цень
і мянушку:
«Юзікаў Бабыль».

* * *

Прыйшоў, убачыў, перамог —
Пераступіў яе парог...
Дзівіліся: «Як мог без ног?!.»
...Ён сэрца Данка ёй збярог...

## РУБІНЫ

Між золата лясных бяроз
Гарацъ прасветлена рубіны,
Якія нават і ў мароз
Не патухаюць у рабіны.
Дзе наш шалаш? Турыны рог
Кахання, вечны, незабыўны?
Рабін рубіны я збярог...
У сэрцы ты маім адбіла
    Таўро —
Са злосці, сваркі і амбіцыі...
Аднойчы, быццам мошак рой,
Ільдзінак колкія драбіны
Снягоў прашыюць серабро,
Дзе заблішчаць мае рубіны —
    Таўро.

## ФРАГМЕНТЫ СЛУЦКІХ ПАЯСОЎ

Фрагменты слуцкіх паясоў
Трымаю на далонях:
Валошкі з роднага улоння
Між промняў-каласоў —
Паэт, уражаны красой,
Навекі ёю быў палонен.
Фрагменты слуцкіх паясоў
Трымаю на далонях —
Нібыта лёс забытых слоў,
Суквецця, сугалосся...
Музей... Маснічыны падлогі...
Імгненні светлыя часоў —
Фрагменты слуцкіх паясоў.

# РЫТУРНЕЛЬ ДАЎНЯМУ КАХАННЮ

Упершыню
Непадпісаную
Падарыў я кнігу сваю.

З губ пажадаў:
«Хай Вам,
як птушцы ў лесе,
будзе вольна там...»
І ў рукі кнігу, бы ў крылы, аддаў...

Сам, як жаўрук
З параненым колісь крылом,
Кірую на ростань-зару...

## КАЛЯ ПОМНІКА БУДНАМУ Ў НЯСВІЖЫ

Сымон Будны каля касцёла
З «Катэхізісам» у руцэ —
Як са свечкай-свяцёлкай,
Што адпужвае цемень і цень.

Я стаю... Я маўчу... І стагоддзяў
Чую подых у ззянні зарніц.
Новы век, пры маім будзь народзе
І пры зорках, што ўсходзяць з крыніц.

## КРОП

ТРЫЯЛЕТ

Цвіцення кропу ў агародзе
Не засланяюць промні руж.
Люблю я гэтую пару:
Цвіценне кропу ў агародзе.
Закон адвечны не паруш —
Усё прадумана ў прыродзе:
Цвіцення кропу ў агародзе
Не засланяюць промні руж.

# ГУЧЫЦЬ АКАРЫНА

ТЭРЦЫНЫ

*Ансамблю*
*народнай музыкі «Свята»,*
*яго кіраўніку*
*Васілю Купрыяненку.*

«Ёсць чары у забытым, старадаўным...»

*Максім Багдановіч*

Гучыць у зале акарына —
Вякі прыйшлі заслухацца сюды:
Ад веку, што радзіў Скарыну,

І да майго — дзе я жыву і ты...
Дзе ўсё так пераблытана, няпэўна,
Што ловіш гук чысцюткі з нематы...

Ці жорава, ці тура голас пекны
Душою сцішна успрымаем мы?
І не забыць ніколі ўжо, напэўна,

У Леты адабраны гэты міг.

# ЭЛЕГІЯ

У гэтым доме сярод бору
таемнасць ціхая жыла.
Над соснамі гулялі зоры
і асвятлялі кут жытла.

Заходзілі, стаяк распальвалі —
злятталі іскры на далонь.
А дом маю трывожыў памяць —
яна зырчэла, як агонь.

Між дрэў, зямлі, святла і неба
высока лёсу тут было...
Ды надламалася крыло,
і зоры дзесь за лес аднесла...

Зноў вечарэе,
                    зноў світае —
як калаўрот,
                    за годам год...
Мне чалавека аднаго
у гэтым доме не хапае...

Каму я мог душу даверыць,
як зорцы той,
                    што аднясло...
Рыпяць журботна, сумна дзверы,
як жураўлінае вясло...

# ЭПІСТАЛА ДА АЛЕСЯ МАХНАЧА

> У сямідзесятыя гады з паліц кнігарняў і бібліятэк знікла кніга лаўрэата Ленінскай прэміі пісьменніка Сяргея Смірнова «Брэсцкая крэпасць».
>
> (З газет)

«Прапала без вестак
«Брэсцкая крэпасць...»
(Яна ў Вас настольнаю кнігай была.)
«Загінулі мы,
але мы і ўваскрэслі
у кнізе-подзвігу...»
(Скуль кропля там зла?)

Зайду па-суседску да Вас у кватэру,
Пакажаце крэслы, як сведак жывых:
«Сядзеў тут Смірноў...
(І сам аж не веру.)
Гаўрылаў — там...
(Брат па сцёкшай крыві)».

А летам пагутарым мы праз балконы...
«Зноў ноччу
выходзіў з-пад выбухаў я.
Трасці мяне будзе
крэпасць да скону...
Вось толькі пужаецца ранкам сям'я...»

Чыя ж там рука ўладарна закрэсліла
кнігу святую,
                    як росчырк свінца?..
Прапала без вестак «Брэсцкая крэпасць»?
Шукайма яе,
як шукалі апошняга ў форце байца...

## ВОСЕНЬСКІ ЭЦЮД

Такое ў лесе неба сіняе,
такая ціш...
Чаго ж трапечаш ты,
асіна,
чаго дрыжыш?

Сцякае з вершаліны лісце,
бы свечкі воск,
і залаціцца на ігліцы,
як плойма вос.

## ТРЫ ВАРЫЯНТЫ

* * *

Выйшаў Нёман з берагоў
напрадвесні,
у сакавіку,
а не той разліў,—
каб душу, як смагу,
наталіць,
быццам небам родным жаўруку...

* * *

І канчаецца год...
Стрэлкі пройдуць свой шлях.
Мы з табою ішлі побач гэтак.
Не забыць толькі б нам
пахі мяты ў палях,
калі снег забялее,
як ветах...

* * *

Пры жыцці любіце чалавека.
Не шкадуйце яго пасля смерці.
Любіце —
пакуль не зачынена века.
Любіце —
пакуль на вуснах усмешка...

## Я — АДТУЛЬ...

Палі жытнёвыя, рамонкі...
Дубровы, ландышы ў расе...
Зямлі адвечную гамонку
насустрач вецер мне нясе.

Душа ў бацькоўскім гойным краі
спрабуе крылы буслянём.
Я за падманным гнаўся раем,
нібыта выгнаны анёл.

Чакаў з'яўлення сіняй птушкі,
але кугала мне сава.
Валошку ў жыце вецер гушкаў,
ажно хмялела галава.

Валошка? Не, не папракніце:
Яе забыць — забыць і край.
Я зразумеў: у спелым жыце —
мая любоў і мой там рай.

Там каласы на мове роднай
шапочуць ціха: «Бе-ла-русь,
ты не была ніколі моднай,
затое ў кветках, як абрус».

Зямля мая — каласавіна...
Ты — мой выток, і вусце — ты.
Не вер чужынцу, вер ты сыну —
ён твой заступнік праваты.

# КАЛОДЗЕЖНАЕ РЭХА

## СПОВЕДЗЬ АДНАГО ЖЫЦЦЯ

*Памяці бацькі*

Каласы не здраджвалі ніколі
той зямлі, дзе зерне прарасло...
Вецер ластаўкай шасціць у полі...
Дзе ты,
повязь часу, даўніх сноў?
Можа, ты світальнаю бярозай
сярод ніў трапечаш ля шашы,
па слядах дзе продкавага воза
праграміць з нашчадкам
век машын...

### *1. Ад'езд*

Ён ад'язджаў...
Глядзела вёска Цéрахі
з-пад брылькоў вясновых гнёзд буслоў...
Ну, што адвечная
хацела
на ростані сказаць яму без слоў?
Ён тут жа нарадзіўся,
пупавіна
зарыта ў полі пад вярбой густой...
У чым жа вёска родная
павінна,
што толькі затрымала на пастой?

Ці думала, што хлопец прыйдзе з войска,
і стане зноўку —
перялётны птах?
Яна ж, як маці, як сястра, па-свойску
заўжды хацела жыць з ім у ладах.
Гадала вёска,
чым так угнявіла
тых, хто з'язджаў у горад ад яе?
Сумненне грызла: тут яна нявінна?
А можа, не ў парадку ўсё ў людзей?
Сціскала роспач, хоць цвілі акацыі...
Паскардзіцца б сусвету усяму,
што слова моднае
«міграцыя»
павісла, як нашыйнік, як хамут...
«І дзе тут выйсце? —
кідалася ка́няю
у думках-спрэчках...
— Адкажы, прагрэс?»
...Бяжыць аўтобус...
Нітачка канчаецца,
што звязвала душу, палі і лес.
Няўжо не адчуваў ён
страты-болю
і жыў у марах гарадскім жыццём?
Ды раптам знекуль —
падалося?—
«Т-о-о-ля!..»,
як параўняліся з забытым «жураўлём».
Нібыта хтосьці выгукнуў з калодзежа,

якi калiсьцi хутаран паiў,
ЯГО сцюдзёнкай ў спёку ахалоджваў...
...Няпрошана ўрываецца ўспамiн...

*2. Каб гук пайтарыўся...*

Пад белым майскiм крылом
бяседа цякла пакрысе...
Сабралiся за сталом
у Юркавым садзе ўсе
з дванаццацi хат хутаран —
палова мурзатай дзятвы...
— Хоць, Толiчак, ты парáй,
як бацьку твайму,
мне, быць?..—
сцяў бацька «хромкi» мяхi.—
Чакае лёс там якi?..
— Ну што ты раскiс, Iван,—
заўважыў падвыпiты Ясь.—
Не едзеш жа ты у Iран,
а ў «Прусii» той будзеш князь...
— I праўда,— уставiў Паўлусь,—
што маем мы з гэтай зямлi?
Як кажуць, што мокры той гусь...
А ў «Прусii» мы зажылi б...
I Юрка цяпер не ўтрываў:
— Ну што ты, Iван, за герой?
Ты ж Гiтлера там дабiваў...
Там быў жа апошнi наш бой...

Бяседа цякла, як ручай,
той-сёй слаўко падкідаў...
— Як хочаш ты тут зазначай...
— Па мне б, я свой кут не кідаў...
— Радзіўся, дык тут і жыві...
— А хто яго ведае, сват?
— Выток жа тут нашай крыві...
— А як жа памерці там, брат?..
Пад гэты густы гаварок
жáліла песня жанок...
Ваенная бацькава «хромка»
разам усхліпвала тонка...
«Бывайце здаровы,
мае абразы,
як я вас убірала
на тыдзень два разы.
Бывайце здаровы, мае сцены белы,
як я вас бяліла напроціў нядзелі.
Бывайце здаровы,
мае стол і лавы,
як я вас крынічнай вадой умывала.
Бывайце здаровы,
мае вы парогі,
як па вас хадзілі мае белыя ногі...»
Ён выбег,
ён бег са слязьмі,
і сад той не цвіў, а гарэў...
Не мог уявіць ён на міг,
што заўтра ўсё адамрэ:
і Собранаў з гульбамі роў,

і рэчка, нібыта сляза,
кулянне-гулянне сяброў,
бабулі Настулі каза,
што пасвіў на майскай траве...
Ён бег,
аж пакуль не спыніў
крык бацькаў, асвер-журавель...
— Не едзем мы,
Т-о-оля,
ан-і-і-і!..
«Ан-і-і-і,
Т-о-оля,
-ні-і-і...»—
Данеслася з глыбіні...
Што значыў калодзежны гук?
Свет, здэцца б, аберуч ашчэп —
адкуль бы хапіла і рук? —
каб гук паўтарыўся яшчэ...

*3. Слухаючы гаспадара*

— Ну, як табе, Толя, завод?
Асвойтаўся, мо й не бяда?
— ?..
Ідуць па двары да варот —
гамоніць адзін гаспадар.
— Жывіце з Паўлушам у нас,
а там інтэрнат мо дадуць...
І, можа, разам якраз

улазіны ў нас загудуць...
Якія вунь гмахі, глядзі —
гатовы дастаць да грамоў...—
і ён паказаў на адзін
з высокіх панельных дамоў.
— А ўсё ж, я скажу, мне шкада
хацінкі драўлянай сваёй...—
і ён уздыхнуў, прыгадаў:
— Я ж з вёскі яе перавёз...
І кожнае хаты бярно
я выняньчыў, быццам дзіця.
...Прыходжу я з фронту дамоў,
а дома — ні ўзяць і ні ўцяць...
(Быў голад і холад тады)
Ну, жонка і кажа:
«Адась,
на свеце шчэ ж ёсць гарады...
Чым біцца на гэтай зямлі,
паедзем мы лепш на завод,
там будзеш ты мець хоць рублі...»—
такая тут казачка, вот...
А наша Забор'е й цяпер
стаіць, нібы здань, уваччу...
Да ясеняў родных, павер,
у снах неаднойчы імчу...

*4. Абуджэнне памяці*

Т о л я:

Памяць, што ж ты ўрываешся ў хутар,
быццам коннік, то ноччу, то днём?
Туманамі, як коўдрай, ахутана
там да сёння дзяцінства маё...
Бацьку бачу... Шынель... Толькі з войска...
Хутаранскі для ўсіх брыгадзір...
Перавозіць хату у вёску
Ён пакуль што з суседзяў адзін.
Там жыццё нараджаецца новае —
трэба ж прыклад усім паказаць...
Не зняверыліся б удовы,
не задумалі б толькі з'язджаць
у няведамы край, як той Яська...
Зразумець не магу і цяпер,
што за сіла была ў душы ў бацькі
ці зазыўна трымаў той асвер?..
Ля калёсаў і я памагаты...
«Хоць за лейцы каня, сын, трымай...»
І вянцы старэнькае хаты
у вясковы плылі белы май...
Ля суседскіх мы ехалі вокан,
што забітыя накрыж былі...
Дзе, Паўлусь, ты, дзе, Яська? —
Далёка...
Ці прыпомнілі хутар калі?
Вось і клён нам чупрынай звысоку

памахаў — бег за намі б услед...
(Запівалі кляновікам-сокам
з Віцем Яськавым «прускі» ад'езд...
Ён казаў, што ўцячэ, што прыедзе:
«Жыць не буду на «прускай» зямлі!»
...Як жывеш, былы сябра-суседзе?
Ці сустрэчы надарыцца міг?)

### 5. *Білеты ў кіно*

Прыйшоў на кватэру са змены...
На ложку — білеты ў кіно...
І Толя здзівіўся ажно:
— Адкуль? І чаго яны тут?
Глянуў на дату і час:
— Сёння... Вячэрні сеанс...
Хто б мог пакласці?
Вось дык шанцуе...
Павел не мог жа —
У начную працуе...
І раптам у гэтай ціхве
думка радзілася ў галаве:
«Ванда... Дачка гаспадыні...»
Яна цікавала за ім,
калі ён прыходзіў са змены
з Паўлам —
часцей, як адзін...
Ванда... Уся ў рабацінні...
Дзеўка-пярэстарка ўжо...

Быў бы ён мужам з мужоў...
Чуў бы: «...навекі адзіны...»
Маці яе навучыла,
пэўна, білеты купіць...
Хлопцу вясковаму дзіўна...
Як жа ты станешся мілым?
Сэрцу — другое баліць...
Сэрца — нібыта націна...
Песняй у ім —
імя Ліна...

* * *

Церахі... Вёска ў маліннiку...
Хата наводшыбе... Сад...
І чарнабровая Ліна —
памяць, вяртай жа назад...
«Як мы любіліся —
дубы хіліліся.
Як перасталі —
дубы роўна сталі.
Як мы любіліся
чатыры гадочкі,
чатыры гадочкі —
чатыры нядзелі...»
Як жа так сталася, Ліна?
Ведае: сам вінават...
Рэўнасці чорнай хвіліна,
хоць і маёвы быў сад...

Толькі прыйшоў жа ён з войска —
кветам убелена ноч...
Верыла, верыла вёска:
быць яшчэ пары адной...
З кім жа цяпер, Ліна, дзе ты?
Больш аніякай надзеі?..
«Як мы любіліся
чатыры гадочкі,
чатыры гадочкі —
чатыры нядзелі...»
Рухам рашучым рукі
білеты ляцяць на шматкі...
Ванда... І плач...
«Выбачай...
Дом дзіўнаваты, бывай!..»

*6. Івась Галабурда*

— Хлопцы, знаёмы будзем...
Толя — мяне... А вас?
— Сцёпа...
— Федзя...
— Івась...
Інакш, Галабурда...
П'еш што — «чарніла» ці квас?
— Я, хлопцы, за квас...
— Ты хто — не рабочы клас?—
савеў за бутэлькай Івась...—
Я болей як дзесяць гадоў

у гэтай «абшчазе» жыву...
Пакінуў на Прыпяці дом,
а разам — і маці-ўдаву...
На покуце картачку ў хаце
старая хавае маю...
Ты скажаш: няшчасная маці...
Бывае: слязіну пралью...
Ніхто да мяне тут не едзе...
Без «продкаў» пражыць я магу...
Прад намі ўвесь свет,
праўда, Федзя?
І Федзя прамовіў: «У-гу...»
Бо Сцёпа і ён — маладзёны.
Як скончылі школу — два дні...
Далёка да сонца паўдзённага,
турбот не грызуць авадні.
Сумненням пакуль што патоля...
Ды прыйдуць, напэўна, яны,
як сёння прыйшлі яны к Толю...
...Гудуць успамінаў званы...

*7. Памяць удавы*

Ссяляліся хутаране
у вёску, адзін за адным...
І Церахі пахлі ад рання
бярвеннем смаляным.
Тут цесляў, майстроў не хапала,
а бацька быў дока-цясляр.
Лічыў ён, што гэтага мала —

яшчэ быў пячнік і сталяр...
Рупесак заўсёды знаходзіў,
ён хату сабе збудаваў.
А ў тым паваенным годзе
святлела, як дзень, удава,
увішная Змітрачыха,
па-вулічнаму Вярста...
Зруб бацька рабіў ёй паціху,
пакуль ён святліцай не стаў.
А потым суседак ззывала
на ўлазіны — ззяе страха...
І бацьку на покуць саджала,
нібыта свайго жаніха.
Усё тут асветлена ў хаце
бацькавым імем...
— Давай
зацягнем, Парасачка, Каця,
а ты нам, Іванка, зайграй...
Вяла Змітрачыха, спявала,
а песня з душы вырастала:
«Іванка, Іванка,
ступлю на новенькі ганак —
не верыцца нават самой...
Павітыя сцены лясной дзеразой.
Спяваюць і ліштвы, і вокны твае,
а ў печы тваёй анёлак гудзе,
анёлак — чырвоны агонь...
Што золата — рукі,
што зорачкі — гукі,
і ў гузічках срэбных — гармонь...»

*8. «Чарот»*

— Субота — дзень выходны,
а колькі тых субот?
Дык сёння — у «Калоду»,
зямелі, ці ў «Чарот»?
Жаргон Івасяў зранку
браў хлопцаў на таран:
«Чаротам» зваў ён танцы,
«Калодай» — рэстаран.
Жыў ён адным: пайсці б куды?
Як дзень прабавіць свой?
Устаў, завёў пласцінку —
І гук на ўвесь пакой...
«Не надо печалиться —
вся жизнь впереди...
Вся жизнь впереди —
надейся и жди..»
Пад гэтую вось песеньку
«Чарот» успомніў Толя...
Хоць лесапарк ды цесна —
няма тут танцу волі...
Людзей на танцпляцоўцы —
як у лугах чароту...
Таўкуцца гуртам хлопцы
да сёмага мо поту.
Ансамбль электраструнны
душу шчыпае соснам:
ад тых мелодый тлумных
і соснам стане млосна.

Часіна разыходзіцца
настане неўпрыкметку.
Каго праводзіць хочаш —
не ўзяў шчэ на заметку...
Заблытацца — не дзіва...
Назад адзін ідзеш.
Тваю, можа, адзіную
зусім другі вядзе...

### *9. Памяць вечарынкі*

Вечарынка звалася забавай...
Моладзь сабіралася у Паўла...
— Хата, як абора — гоп-ца-цы!—
дык скачыце, хлопцы-малайцы,
ля дзяўчатак-ружачак, паненак...
Вытрымае ўсё мой пяцісценак...—
і з нагой бярозаваю Павал
ля музыкі гоцаўся на лаву.
І прасіў суседа-музыканта:
— Заіграй жа наша, нашае, Іванка...
І ляцела птушкай песня-перабранка...
«Маруся, Маруся,
гіну за табою,
не адзін я вечар
прасядзеў з табою...
Не адзін я вечар,
не адну нядзелю,
на цябе, Маруся,
маю ўсю надзею...»

Так забава козыр набірала...
Хлопцаў і дзяўчатаў разбівала
ўсіх на пары. І да самых пеўняў
моладзі скакалася, напэўна...
З сонцам нараджалася і шчасце...
Ранішнія промні, як прычасце
да кахання светлага былі.
Церахі вяселлямі гулі
ледзь не кожны месяц, і часцей...
На застоллі першым быў з гасцей
бацька — гарманіст на вёсак пяць...
Кожны быў тут майстар паскакаць...
Танцавалі туфлі, чаравікі, боты
пад мелодыю няхітрую факстрота:
«Хороши весной в саду цветочки...»
Так і жылі... Бацьку іграць гадзілі...
Забавы... Вяселлі... Радзіны...

*10. Вестка*

З дому прыйшла тэлеграма:
«Толя... Бацька памёр...
— Мама —

*11. Памяць болю*

Толя:

Шэсць гадкоў мне, напэўна, было...
Я казаў: «Калі вырасту, тата,

з аўтаручкай куплю я касцюм табе,
чорны, багаты...
З самапіскай, няйнакш...»
Як тады я быў горды!
Сэнс наіўных тых слоў
зразумеў я сягоння...
Не насіў ты, не ведаў касцюмаў ніколі...
Тваю ў пыле апратку
прывячала здалёк тваё поле.
А пісаць ты умеў
добра толькі сякерай ды кельмай...
...Я стаю ля труны... Вінаваты я вельмі...
Не купіў я табе —
не паспеў — ні касцюма, ні ручкі
і ні з першай маёй,
ні з апошняй палучкі...
Я стаю ля труны...
Мой зямны, мой запознены плач...
— Ты прабач... Ты прабач... Ты прабач...

*12. Сустрэча з Лінай*

Пасёлак Новыя Церахі
расце каля вёскі старой...
І вёска, як добрая цешча
на зяця, глядзіць пад вярбой...
У роздуме дзённай хвілінай
ён выйшаў за вёску ў палі...
І раптам — на сцежачцы... Ліна —
насустрач абое ішлі...

Спатканне... Не бачыцца столькі...
Што скажуць адзін аднаму?
Нібыта — здалося яму —
над жытам узнеслася:
«То-о-ля...»
Бы рэха з часоў, як хадзілі
пры поўні шукаць васількі...
— Дзень добры — прамовіў ён ціха,—
здаецца, прабеглі вякі...
— Дзень добры! — яна адказала:
струменіў пагляд залаты....
Нібы васілёк той, стаяла...
— Як горад? — спытала затым.
— ?!
— Здаецца мне: будуць хутка
ўсе з горада ехаць сюды,
у вёску, да роднага кута,
як ехалі вы ў гарады...
А як я жыву? Дзе? — пытаеш...
Вунь, бачыш,— чырвоны катэдж...
Жыву з заатэхнікам Таняй —
як я, халасцячка яшчэ...
Прыходзь надвячоркам у госці,
пабачыш,
ці добра жыву?..
...Няўлоўнае, блізкае штосьці
кружыла яму галаву...

* * *

І вецер прадчуваюць травы,
і сонца — дзень імжысты,
і бераг левы — бераг правы,
дзе плыць рачулцы чыстай.

Есць і ў кахання прадчуванне,
ты на яго гатоў маліцца:
прыйдзі хутчэй —
о, міг кахання! —
і аслялі, як бліскавіца.

* * *

Імгненнямі азораныя дні...
Твой бляск вачэй, за дзень зырчэйшы,
мяне ўсяго запаланіў...
І я сказаў:
«Што ж, ёсць на свеце чэрці...»

О як яны смяяліся з мяне,
свяцілі гнеўна,
мучылі патайна!..

Ці думаў я,
што гэты грэх міне,
нібы сняжынка весняя растане?..

Камусьці станеш
жонкай гарадской,
жыць будзеш,
як і ўсе,
у тлуме вечным...

І толькі вочы мне
з-за далечы крутой,
як зоркі дзве на небе,
ярка свецяць...

## МАТЫЎ

*«Нарву цветов*
*и подарю букет*
*той девушке, которую люблю...»* —
артыст спявае адмыслова.
А сэрца, як страла, працяў
мне верш Рубцова...
...Увесь у смолках, незабудках,
цвіў луг надрэчны.
Тым летам я
сваю адзіную
навекі страціў недарэчна.
Гучала музыка ў дуброве,
было і зорна, і азёрна...
А мне хацелася гукаць,
спяваць: «Мая князёўна!..»
І кветкі росныя ў траве,
што часта рваў на лузе,
крычалі нема:
— Не цяпер...
Дык больш яе не будзе!..
Я вёў яе праз луг і гаць,
а потым — праз калоссе...
З-пад вей зірнула:
— Што ж, бывай!
І дзякуй, дзіўны хлопец...

Адкуль зацьменне наплыло
на сэрца, як на сонца?

Чаму паверыў я тады,
што гэты міг бясконцы?..
А ён жа быў — як выдых слоў:
*«Нарву цветов...»*

## У НАВАГОДНЮЮ НОЧ У ФАНІПАЛІ

Калі агорне скруха,
успомні,
памяні
чатыры пацалункі
між зорнай цішыні.

Ніхто не вінаваты...
Мы не хаваем воч...
Яднала ўсё прырода
у тую ноч.

Дзе снежная пустыня,
на ветры-скразняку
здавалася — аб зоркі
я вусны апяку...

Гадаў я: хто ты?
Фаня?
А можа, Поля — ты?
Рагнеда непакорная
з далёкай Палаты?..

Ды хвілі не хапіла,
каб разгадаць твой лёс...
Згарала ноч,
знікала,
чароўная,
з нябёс...

Калі агорне скруха,
успомні,
памяні
чатыры пацалункі
між зорнай цішыні...

10—1262

## СТРАЛА АМУРА

На Арбаце, дзе нядаўна адкрыта кватэра-музей Пушкіна, паэт пражыў са сваёй жонкай Наталляй тры шчаслівыя месяцы адразу пасля вянчання (з лютага па май 1831 г.).

Амура крылы —
чуеш шолах іх?—
лунаюць не пад столлю—
пад нябёсамі.
Пакоі.. Пустата...
Яны ўдваіх —
І больш нікога — са сваімі лёсамі.

І музыка няўлоўная, як сон,—
арганная,
загадкавая,
тайная...
Паэт цяпер яшчэ і Апалон,
як Афрадзіта —
Наталі-Наталля.

Тры месяцы — імгненні тры
у райскім садзе вечнасці,
пазнання.
Тры месяцы —
усход-заход зары:
пра гэта ён, яна яшчэ не знаюць...

І рэчка Чорная не чорнаю бядой
спавіта—
сінню сонечнага рання.
Зніжаецца Амур над галавой:
не куляю—
стралой паэт пакуль паранены...

## ОЛЯ

А Нарач хітрая даволі —
нібы пальчатку,
загадку
кінула мне:
— Оля...
Само здзіўленне — О,
а ЛЯ,
як нота з крышталя.
Надрыўным голасам, да болю
крычалі чайкі:
— О-ля! О-ля!
Тры кроплі срэбраныя ў горле
два лебедзі качалі:
— О-л-я...
І хвалі
плылі да берага здаля,
як О да ЛЯ.
Дзе качкі чорныя, як ночы,
запомняць нас, дваіх, аднойчы...
Бяжыць па соснах і таполях
дыск сонца прамяністы —
О-л-я...
Тры літары пяшчоты —
ключ-соль з таемнай нотай —
разгадваю паволі
шаптаннем незямным,
магічным:
— О-л-я-я-я...

* * *

Збягу я туды,
дзе забытыя лодкі ў чароце на выспе
на баку леташні сон
натужацца высніць,
дзе сонца парашутным купалам
за небасхіл апускаецца,
дзе ніхто грахоў не баіцца,
не каецца...
Дзе закаханым
лёгка кахаецца...
І чайкі,
крыклівай чайкі крыло
захлёствае хвалю,
нібыта вясло...

* * *

Салавей жыве непрыкметна
сярод лісця, травы і галін.
Толькі песня адна —
на паўсвета,
толькі ў сэрцы гукаў разліў...

Ён пяе, аж заходзіцца ў вецці
ад кахання, што поўніць зямлю.
Затаіся, паслухай:
нам вецер
салаўінае коціць:
«Люб-лю...»

* * *

З паплавоў сыходзяць туманы...
Нібыта коней табуны,
сыходзяць вераснёўскія тугія туманы.
Сыходзяць туманы
аўсянішчам
па загуменню...
...Аб табе мае найсветлыя
сыходзяць сны,
сыходжу я з твайго ўяўлення...
Сыходжу я...
Сыходзіш ты...
Сыходзім назаўжды...
Сыходзяць туманы
без здрады і маны...

## ГАРАДСКАЯ ЯБЛЫНЯ

Гарадская яблыня —
у цвеце...
Красавіцкай ноччу расцвіла.
І вачэй гаручых не адвесці,
як і раўнадушных,
ад святла,
што трымаеш ты
безабаронна
на сваіх аголеных плячах.
Гарадская белая мадонна —
Закаханасць весняя
і страх...

## ІНТЭРНАТ НА БЫЛОЙ ПАРКАВАЙ МАГІСТРАЛІ

Вартую гэты дом,
а ў ім юнацтва вёсны
мае
спяць вечным сном —
не разбудзіць і вёслам...
Праз вокны гром грымеў,
ляцеў з касет высока...
Тут Абадзінскі «млеў»
і хрып лунаў Высоцкага —
за сэрца брала слова...

Цяпер другі напеў —
Лявонцеў,
                Пугачова...
Бунтуе «цяжкі рок»,
а мне на сэрцы цяжка...
Жыцця мой пройдзены урок...
Куру... Апошняя зацяжка...

## ГРУШЫ КАЛЯ МАСКОЎСКІХ МОГІЛАК

Зямнымі сузор'ямі—
грушы:
у цвеце бунтоўным чмялі...
А можа, чыесьці душы —
каго ўжо няма —
расцвілі?

# ВЕЧАРАМ НА ВОЛХАВЕ Ў НОЎГАРАДЗЕ

Стаю на беразе
ракі,
якой плылі
«варагі ў грэкі».
А блікі месяца
ў вадзе —
як фрэскі
Феафана Грэка...

# КАРАБІХА. МУЗЕЙ НЯКРАСАВА

Ой, полным-полна коробушка —
Есть и ситец и парча...
. . . . . . . . . . . . . . . .
Распрямись ты, рожь высокая,—
Тайну свято сохрани...

*М. Някрасаў. «Карабейнікі»*

Карабіха
і карабейнікі —
корань адзін,
назоўнікі,
дзейнікі...
Толькі назоўнікі?
Дзейнікі дзе?
Не, я не згодзен
з табою,
музей...

Не экспанаты...
Паглянь: карабейнікі
выйшлі на вуліцу —
краю вясельнікі.
Вунь і да Волгі,
да кірмаша
проста кіруе,
шчыруе душа.
— Чым ты гандлюеш,
сінь у вачах?

— Вецер — паркаль,
а неба — парча...
Хочаш — бяры,
напавер аддаю,
ведай душэўную
шчодрасць маю.
Сонца — тваё,
у праменнях — вада.
Толькі ніколі
я не прадам
песню,
        якая
тайну хавае,
тайну,
што мне
аднаму давярае...

...Тут, на зямлі,
не жывуць безнадзейнікі —
з сэрца у сэрца
ідуць карабейнікі.

# ДЗУКІЯ

«Дзукія — частка Літвы. Дзе б я ні быў, аб чым ні пісаў — заўсёды са мной Дзукія».

*Альбінас Жукаўскас*

Дзумкаюць
пчолы ў квеце чаромхі,
заблытаўся ў травах чмель.
Нямунас хваляю
дзынькае,
быццам ільдзінкай,
дзе мель.
У рэчкі славяна-балтыйскі
аўтарытэт.
Бачу: бульбу садзяць
суседкі —
Зося і Марытэ.
Дзэкае Зося па-беларуску,
дзэкае і Марытэ па-дзукску,
лёсам, зямлёю, світаннем
зраднёны
(памяць — падковы,
памяць — страмёны),
венаю крэўнаю —
Нямунас-Нёманам.

# СЯДЗІБА ЧУРЛЁНІСА Ў ДРУСКІНІНКАІ

«Брат мой, ведаеш, як прыгожа ў нас дома. Дзіўная гармонія... Усё існуе як цудоўнае спалучэнне фарбаў, як гучанне дзівоснага акорда...»

*З пісьма Чурлёніса*
*брату Павіласу*

Што за ўсплёскі над домікам?
Квецень?
Хто іграе тваімі рукамі?
На зялёныя клавішы вецер —
лісце майскае —
націскае.
Фарбы бэзу
і фарбы чаромхі
пераходзяць у дзіўныя гукі.
Стане вечным імгненне чароўнае,
за яго ты пойдзеш на мукі...

Тут, над Нёманам,
з дрэва расцеш ты,
дрэва-музыкі,
дрэва-афорту...
Свет, здаецца,у дрэвы адзеты,
дзе суквецці —
малюнкі,
а лісцікі —
ноты...

## ПА ДАРОЗЕ Ў ГУНІБ

**Гуніб — самае высокае і прыгожае паселішча-горад у гарах Дагестана**

Нас вынесла на макаўку-плато,
дзе горы кураць воблакамі белымі,
дзе снежнае раскінуў палатно
сам Бог рукамі агрубелымі.

Тут, на вяршыні, пэўна, баляваў,
туман піў сіні, чабаровы.
Цяпер, дзе ў стыні белай перавал,
пасе авечкі і каровы.

Бог — чабаном,
анёлы — ішакі:
усё, нібыта на Парнасе...
Спускаемся да горнае ракі
Кайсу —
што значыць «рэчка часу»...

Якая ты,
ці мудрая, рака?
Ці нельга павярнуць цябе назад?
Не аднаго джыгіта-седака
жыццё
схавала ты ў свой спрат...

Дарога прыліпае да скалы,
як бобкі абляпіхі на галінцы.

А ў небе — самавітыя арлы,
нібы аварцы ці даргінцы,
якія частавалі нас далмой
у саклі на вяселлі ў Магамета,
што не хацелася дамоў,
а ўвысь хацелася і ў лета...

За воблакамі — крэпасць Шаміля...
І кожны з нас — «Кавказский пленник»...
Аднекуль — з высі ці здаля?—
данёсся звонкі голас пеўня.

Ён кукарэкаў на гары,
там, дзе арлы — святыя госці.
Спяваў пяюн, нібы ў двары
ў палескай нашай вёсцы.

11—1262

## НА ПЕРАВАЛЕ ЦЯНЬ-ШАНЯ

Перавал двухгорбы, як вярблюд,
наш аўтобус ішаком трасецца...
Палыну і кавылю
каня кідае: «Люб-лю...»
Ёкае на спуску сэрца...

Во дзе вечнасць!—
мохам парасла...
Ты ёй проста нейкая травіна,
на якой не бліснe і раса.
З вуснаў вырываецца:
«Ай-чы-на..»

Ад снягоў да сонца —
перавал.
Як арол, твой позірк мерыць горы.
Над хрыбтамі ў небе — сінява,
нібы над маім надрэчным борам.

## У АЛМА-АЦЕ

Заліты пікі серабром —
даліна Алатау.
За горна-снежную любоў
тут плаціцца не танна.
Такое дзіва, пэўна, раз
ты бачыш у жыцці...
А сонца, быццам снежны барс,
у горы мерыцца зайсці.
Шырокі тварам,
як казах,
на небе месяц гляне,
нібы на здымку, на гарах,
пакіне мяккі глянец.
На горад кіне позірк з гор,
зліе яго з фантанамі,
а імі — ведаю я, госць,—
алмааціонцы апантаны.
На схіле ўрук цвіце наўкруг —
сцякае пенаю ружовай.
І сам «Медэо» —
рух,
рух,
рух—
каньком накрэсліць словы:
што мне тут без цябе —
нібы Цянь-Шань
без Кок-Цюбе.[1].

---

[1]Кок-Цюбе — адна з прыгожых мясцін ў гарах Алатау каля Алма-Аты.

## ВЫГУЛЬВАННЕ СЕНБЕРНАРА

Ці шчасце гэта,
ці кара —
выгульванне сенбернара?
Хачу зразумець твой лёс,
высокапародзісты пёс...
Ты ўсё замяніў гаспадыні —
мужа, дачушку і сына...
Спіш, як барон, у кватэры,
ясі, што хочаш, без меры:
нат дарагія прысмакі...
Не снілі такога сабакі...
Жывеш на замежны манер —
о гэты імпартны сверб!
Каму — ланцуг,
каму — костка на працы...
Табе — з гаспадыняю шпацыр...

# ПАКАЦІ-ГАРОШКІ

«Чарніла» знікла назусім —
пустыя ў вёсках крамы.
Даўно, як цюцькі, мы не спім
каля вясковай брамы.

Наш мілы друг, «зялёны змей»,
амаль што стаў няўлоўны.
А каб злавіць яго, займець —
патрэбны спрыт і лоўкасць.

Яшчэ патрэбны добры нюх,
падобны на сабачы,
і ногі, што не сніць каню,
які па стэпах скача,
і слых, нібыта ў кажана,
арла самога пільнасць...

А думка ў галаве адна:
«Ну хоць бы, хоць хапіла...»

Па дваццаць вёрст —
ну дзе ты «змей»—
імчымся па дарожках...
Былі мы цмокамі раней,
цяпер жа —
пакаці-гарошкі...

## ІМПАРТНАЯ МАЛАДОСЦЬ

Ідуць красоўкі, куртка, джынсы,
і фірмы свеціцца ярлык.
Я разглядзець хачу дзяўчыну,
а бачу моды адзін крык.

«Ланком», і «Пупа», і «Палена»
сышліся на губах, як клін.
Я не ўцярпеў, спытаў: «Паненка,
з якіх замарскіх вы краін?»

І раптам чую: «Пойдзем, Тэдзік,
там «хэві ме́тал» — не дурэй!
Адбацаем у дыскатэцы
з табой ультрамадэрны брэйк».

Так проста ўсё?
А я калісьці
прад юнай радасцю трымцеў,
нібыта той апошні лісцік,
што ад галінкі адляцеў.

## БАЯЗЛІВЫ ХАЛАСЦЯК

Адною думкай жыў,
каб як не саступіцца...
— Гляну, хлопцы, гляну —
боязна жаніцца...

Закахаўся ў васемнаццаць,
і дзяўчына, як суніца.
— Гляну, хлопцы, гляну —
боязна жаніцца...

Дваццаць пяць няўзнак набегла —
меў равесніцу-дзяўчыну:
іншаму не сніцца...
— Гляну, хлопцы, гляну —
боязна жаніцца...

Трыццаць стукнула, як гром!
Выбраў, здэцца, маладзіцу...
— Гляну, хлопцы, гляну —
боязна жаніцца...

Вось і сорак год мільгае —
трэба ж ладзіць жыцце...
— Гляну, хлопцы, гляну —
боязна жаніцца...

Пяцьдзесят!
— Дык, хлопцы, як...

Як жа мне рашыцца?
Ну няўжо на Еве ў раі
прыйдзецца жаніцца?

Ажаніўся — во!
А намёк камусьці
ў вока — не ў брыво!

# ПЕСНЯ ПЛЫТАГОНАЎ

З МІНУЛАГА

Каля берага над Нёманам
зелянее асака.
Раскажы пра плытагона,
Нёман,—
родная рака.
  Воды быстрыя імчацца,
  падмываюць карані.
  Ой ты, доля плытагона,—
  дзень і ноч плыты гані...
Раскажы, лаза ніцая,—
пад табой спыняў плыты
ґартулём на ноч ліхую
тут хлапчына малады.

Раскажы ты, ноч цямненька,
як цябе ён каратаў,
пад дажджом цярпеў
                    і ветрам
і на лёс свой наракаў.

Раскажы, лука крутая,
бы ягонае жыццё,
як на прыс тут налягаў ён,
каб плыт бераг не прыцёр.

Раскажы, трава густая,
дзе палуднаваў, курыў

люльку з моцным самасадам,
хлопцам былі гаварыў...
Воды быстрыя імчацца,
падмываюць карані.
Ой ты, доля плытагона,—
дзень і ноч плыты гані...

* * *

Польнай руплі́ўкай пчалою
ты ў маіх думах жывеш.
Перад высокай красою
не прызнаеш ты меж.

Сябар табе і травіна,
піжма, рамонак, палын...
У чым жа тады правіна —
ці гэта лёс — пчалы?

Вечная працаўніца,
зыку свайго не падай —
могуць з яго наглуміцца...
Мёд жа ўсім аддавай....

Ці не з надрэчных красак
узятак —
голас чужы?
Квакаюць жабы між раскі...
Доўжацца дзён міражы...

## ВАЛОШКА

Сіняя кветка
на жытнім палетку
мне даражэй,
чым півоня улетку.

Абцалавалі
дажджы маладыя
модныя кветкі —
часцей гарадскія...

Ружы, півоні,
вяргіні, герані,
тайны кахання
спазналі вы рана.

Ці не таму
вы так хутка завялі,
непрыцягальнымі,
бляклымі сталі.

Вас прадаюць
і купляюць на рынку,
з вамі на вечар
толькі ў абдымку.

Глянь, як валошка
цвіце незалежна
на родным палетку,
на росным узмежжы.

Сініх пялёсткаў
цнатлівыя вусны
ціха цалуюць
паднебную вусціш.

І не хацеў бы я
лепшага лёсу —
вечна цвіла б толькі
ў жыце валошка.

# КРАПІВА

Сцябала малышоў,
Пякла, як плойма мурашоў,
Слыла спрадвеку вогненнай травой.
І вось з паклонам
чалавек прыйшоў
У дзень блакадны і галодны той.

Ён рваў яе, хоць пухірамі рукі абдало,
І клаў, нібы жамчужыну, у кош.
А заўтра будзе есці боршч з яе сяло,
І словы прагучаць:
«Раскоша ўсіх раскош...»

Сягоння непрыкметная ля плоту, як палын,
Расце-кусціца жгучка-крапіва.
Ды часам крапівой
па сэрцы сцебане ўспамін,
Калі спрабуе хтосьці тлушчам аплываць...

## ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ СЛЁЗЫ

Асыпаліся каноплямі слёзы
на траву-мураву —
плакала бяздзетная
бяздомніца:
«Пры кім я веку дажыву?..»
Птахі з пташкамі ладзілі гнёзды,
а яна — у садку:
«І ўдава —
не ўдава...
Адзінокай кукуй...»
Адляталі дзеці з птушкамі ў вырай,
а яна — на суку:
«Маці,
родная маці...
А без дзетак вякуй...»
Чулі людзі плач той —
куванне,
хтосьці мовіў тады:
«Гэта шэрая лічыць,
шкадуе чыесьці гады...»
...Так гады
і гадуе
кожнай весняй парой.
А ўпаўшыя слёзы зязюлі
вырастаюць зёлкай-травой.

## ЦВІЦЕ ПАСПЕШКА

Цвіце паспешка белым цветам
у чэрвені,
калі сады
трымаюць завязі ранетаў
у пальцах—
голлі маладым.

Спяшаецца гародчык выбеліць,
калі ўжо лета, як агонь...
Дзяўчынкай з белым бантам выбегла —
здзівіць збіраецца каго?

* * *

Праводжу лета...
Ціхая часіна...
Схіліў мне ў рукі голаў васілёк.
На ўзмежку тонкі зык асіны
палын калыша і быллё.

Пух маладых вусоў сланечнік скінуў
і семак шчэццю туліцца да рук.
А словы,
друг,
табе сказаць якія? —
я зведаў сам падобную пару...

Півоня,
ты з дзяўчыны сарамянай
паўстала весялухаю такой —
на ўсю шчаку ажно гарыць румянец,
нібы пасля застолля ў маладой.

І лішнімі здаліся ўсе прамовы...
Гляджу на вечаровы небакрай,
дзе лета затрымалася на момант
перад зыходам,
як пунсовая зара.

* * *

Згараюць дні
пад небам вечным...
Вось згас і жнівень,
быццам свечка.
Калейдаскоп знік гукаў,
кветак...

...Сякера месяца
адсекла лета...

# ДУБ І САСНА

Па дарозе з Гарадзеі ў Нясвіж на абочыне растуць, пераплёўшыся, дуб і сасна як помнік прыроды, як сімвал кахання.

Брукаваная дарога...
Дзве душы —
а каханне адно.
І не трэба жыцця ім другога:
ім не страшны завея і дождж...

Мы і дрэвы —
адвечнага роду,
адзін корань зямны нас спавіў.
Веру ў вечнасць тваю,
прырода,
і ў тваё прыцягненне любві!

## ВЯСНОВЫ ЭСКІЗ

Ліст леташні у небе —
жураўлём...
І юная травінка пад быллём
пажухлым —
як надзея
зялёнаграйнае нядзелі
пасля зімы будзённых дзён.
Хоць воку шчэ здалёк відзён
той лапік снегу пад сасной —
як развітальны пацалунак
зімы з вясной...

## СВЯТА ПТУШАК

— На благавешчанне
бусла пагладзіць,
з-пад неба клікнуць
да сябе гусей...
На свята гэтае ніхто
гнязда не ладзіць,—
прамовіць каля веснічак
сусед.

Святкуюць птушкі...
Добрая нагода...
Сягоння пазайздросціш
вераб'ю:
шпак запрасіў адранку
яго ў госці —
бярозавік па кроплях
разам п'юць...

* * *

Збірае ландышы нямко,
нібы абрад святы спраўляе.
Маўчыць зацятае слаўко,
ды сэрца салаўём спявае.

Тут толькі і спраўляць абрад —
як храм,
маёвая дуброва.
Ён дзівіцца:
чаму ягоны брат,
што можа выказацца словам,
які не знае глухаты —
здалёку чуе песню,—
прыходзіць па дубцы сюды,
каб дома ў кошыкі
уплесці?..

## ДРАЧ

Скрыпіць, як сук пад ветрам,
птах у лазняку,
У сховах драч дзярэ тут дранку.
Наканавана ж на вяку —
дзяры і ўвечары і ўранку.

А неба песціць жаўрукоў
паэзіяй —
не прозай...
А тут — дра-дра! —
ды скок наперад крок —
ну, вось і ўсё...
І ўвесь твой козыр.

Такі ўжо лёс?
Нясі, як крыж?
А можа, драч крычыць між траў,
каб той, хто ў небе,
песню крыл,
як шчасце,
адчуваў?..

* * *

Кім ты ўзвышаны —
небам, зямлёй?
Без народа — як вецер бязродны.
Зарастае крыніца быллём,
не спатоліць што смагу народа.

Гэтай думцы сумленна аддзяч,
покуль дзень твой усходзіць,
як поўня.
Вочы Мележа ў сэрца глядзяць,
Караткевіча —
помні іх,
помні...

* * *

І ка́ню над алёсам,
і жаўранка ў зеніце
пакіньце ў маім лёсе,
як знакі дзён,
пакіньце...

Душы звінець ад шчасця,
бы жаўранку над полем,
і як жа яшчэ часта
ускрыкваць ка́няй
з болю...

* * *

Святое — дом, радзіма,
дрэва,
якое ў маладосці пасадзіў.
Я не скажу,
што жыў я дрэнна:
я роднае любіў на здзіў...
А нехта так —
абы-абы...
(«Ты не святы, як я — рабы...»)
Пад дубам,
пад маёй чаромхай
барыгі дундзілі віно...
Ім усё роўна:
пад кустом, чаротам —
духоўныя кастраты ўжо даўно...

* * *

Век чалавечы —
сто гадоў...
Яго мая бабуля пражыла.
Век вех,
век наламаных дроў...
век урачыстасцей
і зла.

Век розны...
Размаіты век...
Але галоўнае не ў гэтым —
нясі назоў свой,
чалавек,
нат калі заўтра заканчэнне свету...

* * *

Таемны вы, зямлі скрыжалі! Чаго ў сябе вы не ўпісалі!..

*Якуб Колас*

Чытаю нёманскія хвалі,
зямлі дзядоў маіх скрыжалі.
Бягуць радкамі на паверхні,
як строфы вытанчаных вершаў.
А то заглыбяцца у нетры,
нібы верлібры ці санеты...
Тут і традыцыі, навацыі...
Яднае плынь...
Яна іх сувязь,
«часоў былых
і новых сувязь...».

## ЗМЕСТ

### *Маладзік*



### *Пойня*

## *Сход*



## *Ветах*

**Хвалей Я.**

Х 30 Квадры памяці: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1992.— 191 с.

ISBN 5-340-01109-7.

Хвалей Е. Квадры памяти: Стихи.

Новы зборнік паэта складаецца з чатырох раздзелаў: «Маладзік», «Поўня», «Сход», «Ветах», назвы якіх маюць сімвалічны сэнс. Аўтар імкнецца спасцігнуць і далёкае, і зусім нядаўняе мінулае, разабрацца ў складаным і супярэчлівым сённяшнім дні, зазірнуць у будучыню. Адсюль і разнастайнасць паэтычных формаў — ад цвёрдых і амаль забытых тэрцын, да сучаснага верлібра, раскаванага верша.

**Х** $\frac{\textbf{4702120202—046}}{\textbf{М 302(03)—92}}$ **64—92** **ББК 84Бел7**

*Литературно-художественное издание* / *Літаратурна-мастацкае выданне*

Хвалей Евгений Иванович / Хвалей Яўген Іванавіч

Квадры памяти / Квадры памяці

Стихи / Вершы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

---

Рэдактар *Хв. Д. Жычка.* Мастак *В. А. Тарасаў.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская.* Карэктар *Л. П. Бялова.*

ІБ № 3878

Здадзена ў набор 17.04.91. Падп. да друку 14.01.92. Фармат 60×90$^{1}/_{32}$. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 6,0. Ум. фарб.-адб. 6,13. Ул.-выд. арк. 5,29. Тыраж 3500 экз. Зак. 1262.

Цана 2 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.